
«Поўня» Андрасюка ➔3

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Гайнаўская «Калебка» ➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 19 (3287) Год LXIV Беласток, 12 мая 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Травеньскае падарожжа

## ў часы нашых продкаў — дарма і толькі 30 кіламетраў ад Беластока

**Паэўна яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму ніхто не ўяўляў сабе жыцця без каваля, ганчара ці лыжачніка. Сацыяльна-эканамічныя перамены паўплывалі на пераўтварэнне вёскі і прывялі да знікнення розных прафесій. На шчасце знайшліся людзі, якіх намаганнямі ўдалося вярнуць крыху ранейшага колеру падляшскім вёскам. Падляшскі этнаграфічны шлях ахоўвае яшчэ актыўныя цэнтры народнага мастацтва або аднаўляе тыя, якія калі-небудзь існавалі. Гэтыя дзеянні, разам са штораз больш багатай агратурыстычнай базай, прыцягваюць на Падляшша тысячы турыстаў. Доказам гэтаму быў Этнаграфічны пікнік і інаўгурацыя дваццаць пятага турыстычнага сезона на Падляшшы. Мерапрыемства сцягнула дзясяткі турыстаў не толькі з усёй краіны і з-за мяжы, але і мясцовых, якія маглі б лічыць Падляшша з'езджаным і зведаным.**

**Першы ў Польшчы этнаграфічны шлях паўстаў на Падляшшы**

На майскіх выхадных, 1 траўня, прайшло ўрачыстае адкрыццё юбілейнага турсезона на Падляшшы. Дваццаць пяць гадоў споўнілася шляху народнага рукадзелля, які лічыцца адной з галоўных турыстычных цікавінак рэгіёна. Ён захоўвае майстэрні, асяродкі народнай творчасці ды робіць іх даступнымі для турыстаў. Маршрут з'яўляецца вельмі папулярным і прыцягвае мноства турыстаў з Польшчы ды з-за мяжы.

— На працягу 25-ці гадоў гэтыя мясціны наведалі дзясяткі тысяч людзей. Спачатку былі такія гады, калі ў Чорную-Весь-Касьцельную прыязджала ад 5 да 10 тысяч людзей. Сёння мы цешымся, бо штораз больш прыязджае індывідуальных — гэта хіба найбольш каштоўны турыст, бо ён адмыслова прыязджае паглядзець, — сказаў этнограф Войцех Кавальчук.

Гэта найстарэйшы этнаграфічны шлях Польшчы. Шлях рукадзелля ўключае ў сябе больш за 20 найбольш каштоўных майстэрань і рамесных асяродкаў, якія культывуюць традыцыйныя тэхналогіі і дызайн. Шлях адкрыты круглы год і прыцягвае тысячы турыстаў і аматараў народнага мастацтва. Ініцыятыва заснавання шляху належыць дэпартаменту Падляшскага этнаграфічнага музея ў Беластоку. Адным з ініцыятараў і заснавальнікаў падляшскага этнаграфічнага шляху быў менавіта этнограф Войцех Кавальчук.

Шлях размешчаны ў заходняй частцы Кнышынскай пушчы і ахоплівае такія мясцовасці, як Саколка, Замчыск, Янаў і Чорную-Весь-Касьцельну, якая славіцца ганчарствам. Тут, апрача рознага тыпу посуду, выраблялі таксама гліняную чарапіцу. Сёння гэта апошняе месца ў Польшчы, дзе знаходзяцца майстэрні, якія надалей выраблююць чырвоную і сівую кераміку. У вёсцы працуе таксама кузня, якая спалучае народнае кавальства з кавальствам мастацкім. У Замчыску спадар Валодзя выраблае традыцыйныя драўляныя лыжкі. У Янаве можна наведаць ткацкую ізбу, у якой экспануюцца працы мясцовых ткачых. Падглядзець творчы працэс можна ў час майстар-класаў не толькі ў Янаве, але і ў Васілёўцы ці Навакольне. Вандроўка па шляху гэта падарожжа ў часы нашых продкаў, а дакладней — да іх штодзённай працы. Тут можна пазнаць унікальныя, знікаючыя рамёствы, а пры нагодзе даведацца як выглядаюць майстэрні сапраўдных народных творцаў.


■ Лукаш Пяхоўскі


https://arch.um.bialystok.pl
■ Войцех Кавальчук



**Ганчар ад сёмага пакалення**

Этнаграфічны пікнік — гэта свята Шляху народнага рукадзелля Падляшскага ваяводства. На працягу трох дзён Чорную-Весь-Касцельную, дзе праходзіць мерапрыемства, наведалі тысячы турыстаў. У керамічным цэнтры Падляшша ганчарская традыцыя перадаецца з пакалення ў пакаленне.

— Сёмае пакаленне. Мой прапрапрапрапрадзядуля заснаваў Чорную-Весь-Касцельную, пасяліўся ў ёй і заўважыў дабраякасную гліну, — сказаў малады ганчар Лукаш Пяхоўскі. — Пачаў яе дабываць. Пасля ўсе пабачылі, што пачаў раскручвацца бізнес, і ўсе пачалі займацца ганчарствам. І ўжо ў палове XX стагоддзя займалася ім уся вёска.

Зараз ганчарства зноў стала рэнтабельным. Гэта таксама заслуга менавіта падляшскага этнаграфічнага шляху, паколькі ганчарскі асяродак у Чорнай-Всі-Касцельнай — гэта апошні ў Польшчы комплекс такога тыпу майстэрань.

— Вядома, я не заўсёды марыў аб гэтай прафесіі (*смех*). Зараз я ўжо ўмею зрабіць усё, але надалей маю праблемы з вырабам большага посуду — тут яшчэ не хапае мне вопыту, — прызнаўся малады ганчар Лукаш. — Часам, калі маю большы заказ, трэба мне падняцца ў чатыры раніцы, а часам не класціся спаць усю ноч. Усё-такі цешуся, што я ганчар.

Апрача таго, як прызнаўся „Ніве", ён — славянін і верны слухач Беларускага Радыё Рацыя.

Этнаграфічны пікнік праходзіць у Чорнай-Всі-Касцельнай. У майстэрнях ганчароў гасцявалі таксама іншыя народныя творцы, якіх майстэрні знаходзяцца на шляху. Можна было сустрэцца і пагаварыць з янаўскімі ткачыхамі, разьбярамі з Саколкі ці з лыжачнікам з Замчыска. Апрача таго пісанкаркі з Ліпска падрыхтавалі майстар-класы па ўпрыгожванні яек воскам, гэтак званым бацікавым метадам.

Варта дадаць, што Чорная-Весь-Касцельная славутая таксама тым, што менавіта тут безупынна з XVIII стагоддзя працягваецца традыцыя вытворчасці сівой керамікі. У Чорнай праходзіць Міжнародны пленэр сівой керамікі. Першы адбыўся ў 2012 годзе і быў наладжаны Цэнтрам народнага рукадзелля ў Нямчыне пры супрацоўніцтве з аддзяленнем этнаграфіі Падляшскага музея ў Беластоку. А ўжо ў 2013 годзе ў пленэры прымалі ўдзел вытворцы шэрай керамікі з Беларусі, Украіны і Латвіі. Гэтая падзея стварае новыя магчымасці для мастацкага міжнароднага абмену прафесійным вопытам. Найбольш шчыльна падляшскія ганчары супрацоўнічаюць з беларускімі. Менавіта на беларускім Палессі таксама працуюць выдатныя ганчары шэрай керамікі. Этнограф і суарганізатар Міжнароднага пленэру Войцех Кавальчук сказаў «Ніве», што менавіта дзякуючы польска-беларускаму супрацоўніцтву ганчароў на Палессе вярнуўся звычай выраблаць велізарны гліняны посуд, які там называлі «палякам».

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**





# Дым і агонь

Дыму без агню не бывае. Прынамсі так гаворыць старадаўняя мудрасць, вядомая яшчэ з тых дапатопных часоў, калі зямля плавала на трох кітах. Усё далейшае развіццё чалавецтва толькі пацвярджала праўдзівасць гэтых слоў. Не згубілі яны сваю актуальнасць і сёння.

Напачатку пра дым.

У інтэрв'ю радыёстанцыі „Срэбны дождж" вядомы расійскі журналіст і публіцыст Мікалай Сванідзэ заявіў, што да яго з Мінска дайшоў слых, нібыта дзейсны кіраўнік Расійскай Федэрацыі прапанаваў не менш дзейснаму кіраўніку Рэспублікі Беларусь стаць сапраўдным дзейсным прэм'ер-міністрам Расіі ажно на шэсць наступных год. Зразумела, гэта ўсё не проста так, і не за невераготна высокія гаспадарскія дасягненні дадзенай беларускай кандыдатуры ў галіне эканомікі, ну і зразумела што не за прыгожыя вочы. Гэтая ўсходняя прапанова мажлівая, маўляў, толькі ў абмен на ўсю Беларусь з усімі яе амаль дзесяці мільёнамі рускамоўнага насельніцтва.

Спраўка: Калі хто не ведае, Мікалай Сванідзэ з'яўляецца прадстаўніком яшчэ той старой, на сённяшні дзень ужо не моднай інфармацыйнай школы, у якой проста так языком не мятуць, а ўзважваюць кожнае слова. Таму што маральна-этычныя крытэрыі і праўдзівасць кожнага зляцелага з вуснаў выказвання лічаць не толькі прафесійнай этыкай, але і жыццёвай неабходнасцю. Таму каму-каму, а Мікалаю Сванідзэ верыць можна.

Ідзём далей. Такога прыніжэння мала якая краіна, і мала які яе начальнік звёдалі. Ні кіраўніку Малдовы, ні Узбекістана, ні Казахстана, ну і зразумела што ні кіраўнікам Украіны, ні былому ні цяперашняму, такія прапановы не паступалі. Ёсць над чым задумацца. А тут вось так проста, па-сваяцку, у прыяцельскім тоне, раз, і пагаварылі.

Дажыліся! Нічога не скажаш.

І што вы думаеце, дуэлі пасля гэтай кінутай пальчаткі не адбылося. Прынамсі ў нашым эстэтычна-арыстакратычным уяўленні пра дуэлі. Хоць можа сённяшнія дуэлі вядуцца па іншых правілах, і вымушанае адкліканне з Беларусі расійскага амбасадара Міхаіла Бабіча і ёсць „наш адказ Чэмберлену". Хто яго ведае. Пажывём пабачым.

Гэта было пра дым.

Ну а зараз пра агонь.

Ну вось настолькі расшчодрыўся кіраўнік Расійскай Федэрацыі з прапановамі і падарункамі направа і налева, што нават для шырокай расійскай душы гэта ўжо занадта. Тут крэсла прэм'ера аддае, там для жыхароў некаторых раёнаў Луганскай і Данецкай абласцей прапаноўвае за „бардзо дзенькуе" грамадзянства Расійскай Федэрацыі. Выглядае так, што яго ўжо не спыніць у бязмернай шчодрасці.

Якога новага падарунка ад яго чакаць і каму? Можа Нурсултан Назарбаеў і аддаў сваё пажыццёвае права кіраваць Казахстанам, бо па логіцы рэчаў у такой святочнай атмасферы і яго без падарункаў наўрад ці пакінуць. А Нурсултану Абішавічу хіба што не асабліва яны патрэбныя.

Лагічна паўстае пытанне, а навошта такая шчодрасць патрэбная самаму расійскаму кіраўніцтву? Бо калі хто думае, што толькі праз саюзную дзяржаву Беларусі і Расіі расійскі начальнік можа захаваць свой трон, той увогуле не разумее што гэта такое трон расійскі. Калі на яго хто залазіць, то сам злезці ўжо не можа. І аніякія новыя дзяржаўныя ўтварэнні для гэтага зусім непатрэбныя. А вось новыя салдаты Расіі былі патрэбныя заўсёды. Ну калі павяваць хацелася. А галоўнае заўсёды ёсць з кім павяваць. Так гістарычна склалася.

Вялікая яна, Расія, толькі не густа населеная. Вось мільён-другі баяздольных чалавек і не пашкодзіць. Асабліва такіх, ужо абстраляных, як з Луганшчыны і Данеччыны, ці такіх з дзяцінства партызан як з Беларусі. Ды што там гаварыць. Усялякія патрэбныя. Расія заўсёды ваявала людзьмі. Лішніх не бывае. Лішнія адсейваюцца самі па сабе на полі бою. Ну а бой заўсёды будзе, калі ёсць лішнія салдаты. Некуды ж іх трэба дзяваць.

Вось вам і дым, вось вам і агонь. Ну а як жа без агню, калі і дровы даўно нарыхтаваныя, і распалка, і запалкі ляжаць на відным месцы. Не прападаць жа дабру.

А там хто рукі нагрэе на гэтым агні, а хто азадак прапаліць, гэта ўжо як каму пашанцуе, ці не пашанцуе. Кожны думае, што ён то патрапіць у першую катэгорыю. Толькі вось гэта далёка не факт.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Бухтаванне

Лысага ў вялікай палітыцы са свечкай пашукаць. Чубы, хоць прарэджаныя, маюць спадары Трамп, Сі Цзіньпін і Пуцін. Таксама кіраўнікі меншых краін, такія, як спадар Лукашэнка, грабеньчыкі носяць з сабой не для пустога шыку. Дагледжаная прычоска, а таксама асляпляльная ўсмешка, у цяперашні час узровень дыпламатычнага савуар-віўра, так як і касцюмы палітыкаў, пашытыя з улікам іх становішча і ў адпаведнасці з прынцыпамі высокай моды. А дзе ж тыя часы паноў Хрушчова, Мао-Цзэ-Дуна і Гамулкі — калі іх лысіна была паліткарэктная, усмешка з-за шырокіх паражнін у зубах непадыходзячая да сур'ёзнасці ўлады, а іх касцюмы нагадвалі масава вырабленыя світкі ў стылі прэ-а-партэ...

Можа, гэта і добра, што цяперашнія лідары ЗША, Кітая і Расіі, і меншыя, маюць чупрыны і, самае галоўнае, клапоцяцца пра іх, пра кожны валасок. Думаю, што з не меншай чуллівасцю звяртаюцца да валасінкі, на якой вісіць мір ва ўсім свеце. Як трапна заўважыў класік Барэя, мужчыны ў гальштуках менш скандаляць... Чым больш палітык, тым больш элегантная палітыка. Але палітыка, культываваная пад гальштукам, ці ў касаваротцы а-ля Хрушчоў, усё ж кіруецца нязменным прынцыпам: мэта апраўдвае сродкі. Час не мяняецца. У чым розніца паміж жорсткай фразай «адрубаю табе гэтую праклятую руку» і яе змякчанай версіяй: «не крыўдуй, але ампутую тваю руку»? Тут ціснецца на вусны пытанне з галіны палітычнай фантастыкі: што было б, калі б, напрыклад, галава расійскага лідара Пуціна мела такі глянец, як лысы чэрап колішняга савецкага лідара Хрушчова, які пры кубінскім крызісе мог выклікаць ядзерную вайну? Сцвярджэнне, што валасатыя — рахманыя як ягняткі, а лысыя пыхлівыя і хуліганы, можа ўвесці ў зман. Гледзячы на лысыя чэрапы польскіх «заўзятараў» або фашызуючых баевікоў-нацыяналістаў, пачынаюць узнікаць сумневы ў гэтых адносінах. Тым больш, што іхняя (не толькі слоўная) агрэсія нагадвае іншае жорсткае стаўленне іншага лысага чэрапа — прэм'ер-міністра ў час ПНР Юзафа Цыранкевіча, які пасля крывавых падзей у 1956 годзе ў Познані хацеў адрубваць кожную руку, якая паважылася на народную ўладу. Пасля яго выступу многія палякі, аднак, паднялі рукі... у жэсце падтрымкі ўлады. Заўсёды і ўсюды ёсць тыя, хто над здаровы розум паставіць вышэй аслепленыя ідэалогіяй гераізм.

Гэты ідэалагічны гераізм не мінуў да сёння. Рук, узнятых у знак падтрымкі ўлады, якой бы яна не была, відавочна, не паменшала. Хоць і не прыбыло. Напрыклад, калі Яраслаў Качынскі на адным з мітынгаў падтрымкі прыгадаў наўмысна ці ненаўмысна знакамітую фразу Цыранкевіча, якая ў мадыфікаваным выглядзе гучала накшталт: «Кожная рука паднятая на Касцёл сустрэнецца з адпаведнай рэакцыяй улады», частка захопленых рук упала сарамлівa, магчыма, баязліва, у той час як іншая частка герaічна паднялася яшчэ больш уверх.

З усё больш аддаленага ад нас Еўрапейскага Саюза прыляцеў былы прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск. І сказаў столькі, колькі трэба. Перш за ўсё, пра Канстытуцыю, скроеную паводле грамадзянскага, так бы мовіць, стылю прэ-а-партэ, а не пашытую па індывідуальным стылі высокай моды. На значна больш дазволіў сабе Лешэк Яжджэўскі, журналіст «Liberte», кажучы, што «Каталіцкі касцёл у Польшчы, заражданы невытлумачальным скандалам педафіліі, апантаны барацьбой за грошы і ўплывы, страціў маральны мандат на тое, каб ажыццяўляць функцыі сумлення народа». У кантэксце пужаючай заявы Яраслава Качынскага, стаяўшага ў абароне такога Касцёла і апрабацыі ягоных прыхільнікаў, з якой ён сутыкнуўся, слоў Яжджэўскага нельга назваць пустымі, хоць, напэўна, герaічнымі. Аднак, існуюць розныя крыніцы гераізму. А таксама розныя вусці. У сваім гераізме Яжджэўскі пайшоў значна далей, сказаўшы, што: «(...) парадак тэм дня ставяць нам ведзьмакі, якія спадзяюцца, што з дапамогай злых чараў і маніпулюючы злымі эмоцыямі змогуць здабыць уладу над душамі палякаў». Але канкурэнцыя за інвектывы — працягваў ён — з імі не мае сэнсу, таму што праз некалькі гадзін качання са свіннёй у гразі разумееш, што свіння гэта любіць. Трэба змяніць правілы гульні». На жаль, слова «свіння» зрабіла з гэтага пастулата звычайную бухтавіну. Даўно там бухтуе дэпутатка Паўловіч, называючы сваіх палітычных апанентаў «хлявом». Справа ў тым, каб палітычная мода, нарэшце, дараўняла чаканням прэ-а-партэ. А далей усё пойдзе сваёй каляёй.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Верыць і не зняверыцца

Ну і доўгія велікодна-майскія выходныя за намі. Майскія свабодныя дні аказаліся зманлівымі і капрызлівымі, калі ідзе пра надвор'е. Ад жары да халадэчы, ад сонечных праменяў да замаразкаў і снегападу. А пры тым парывісты вецер, што не аднаго аматара адпачынку на прыродзе прывёў да прастуды, насмарку і галаўнога болю. На Падляшшы, краіне, па якой цякуць малочныя рэкі з кісельнымі берагамі, і з генетычнай, сялянскай любоўю да зямлі ўсе чакалі як збаўлення дажджу, нават больш чымсьці турыстаў. А дажджу як не было, так і няма. Усе перасталі верыць прагнозам надвор'я на рэгіянальным тэлеканале і з зайздрасцю глядзелі і слухалі навін пра ападкі ў суседніх рэгіёнах Польшчы. Веснавая засуха не найлепш варожыць для ярыны, сенажацей, ці хатняй агародніны. Чым мы ж зноў правініліся, пачынаюць пытаць сябе некаторыя старажылы, жывучыя ў прыродным кругагвароце і па біблейскіх прыказах. Каляндарны час, адмераваны датамі і стрэлкамі гадзінніка, патрэбны ім толькі для памятання дня атрымання чарговай пенсіі і строгіх тэрмінаў глытання прыпісаных пілюлек. Але ж хто сёння слухае старажылаў? Уваткаты ў смартфон ці камп'ютар нос здаецца быць тым важнейшым, матэрыяльным, правярaльным ангелам ахоўнікам, чымсьці духоўныя роздумы бабуль, дзядуляў, царкваў ці касцёлаў.

У першую нядзелю пасля Вялікадня ў цэрквах чытаецца прытча пра няверанага апостала Тамаша (Фаму), які Богачалавека Ісуса Хрыста і ягоныя раненні пасля мукаў укрыжавання хоча ўбачыць і даткнуцца ўласнымі рукамі. Менавіта даткнуцца і праверыць усё розумам здаецца вызначаць жыццёва-філасофскія выбары многіх людзей, якія лічаць сябе нават хрысціянамі. Памятайма таксама, што бласлаўлёныя і тыя, што не бачылі, а паверылі. Таямніца духоўнасці, кахання, цярпення, літаратуры ніколі не даецца змерыць рацыянальным розумам і найбольш прасунутымі тэхнічнымі вынаходніцтвамі.

Праверыць наша, беларускае вырашыў адзін мой знаёмы. Адчуць бачанае і нябачанае прывяло яго да рашэння паехаць на пачатку гэтага тыдня ў Беларусь. Якраз там з'явіўся... тыдзень свабоднага. Звязаны ён з хрысціянскай памяццю аб продках, Радаўніцай і свецкім Днём перамогі над нямецкім фашызмам, святкаваным дзявятага мая. На ўласныя вочы захацелася яму пабачыць, адчуць і пастарацца зразумець беларускую ментальнасць дваццаць першага стагоддзя. А ці яна можа быць адметнай у такой амаль поўнасцю рускамоўнай штодзённасці? — задумваўся перад выездам. У рэшце рэшт сам кіраўнік дзяржавы паўтарае, што беларусы... гэта таксама рускія, толькі са знакам якасці. Пра якія якасці ідзе тут размова? — за кожным разам распытваў мой знаёмы. Можа паездка прынясе яму адказ на ўсе ягоныя пытанні і сумненні.

Але перад самым ад'ездам прачытаў ён статыстычныя даныя Белстата, прысвечаныя Дню друку, які адзначаецца ў Беларусі 5 мая. У 2018 годзе ў Беларусі было выпушчана 9,7 тысячы кніг і брашур агульным тыражом 25,6 мільёна асобнікаў. На расейскай мове ў 2018 годзе выдадзена 7,5 тысячы кніг і брашур агульным тыражом18,5 мільёна асобнікаў (72,3% ад сукупнага накладу), на беларускай мове выпушчана 1323 кнігі і брашуры тыражом 4,3 мільёна асобнікаў (16,7%).

Ад такой статыстыкі застаецца яму толькі заплакаць, а мо нават і завыць, сказаў мне. Пра развіццё чытанай беларускасці ў грамадстве трэба проста забыць. А ўсе гутаркі пра раўнапраўнасць дзвюх дзяржаўных моў з'яўляюцца толькі русіфікацыйным прыкрыццём. Хоціць зайсці ў любую кнігарню і глянуць на паліцы з мастацкай літаратурай і літаратурай для дзяцей, каб яшчэ больш зразумець, чаму ты апынуўся ў «чирикающим русском миры». Бо родная школа застаецца толькі мрояй, а радыё і тэлебачанне са сваімі зоркамі на «истинном языке» ўмацоўвае нас таксама ў перакананні, што мовай суседзяў карыстаюцца культурныя людзі.

На шчасце ёсць яшчэ прасторы і такія людзі, што ў змозе штодзень берагчы беларускае ў сваім жыцці. Яны наша апора і надзея ў гэтым расцярушаным свеце. Думаю, што майму знаёмаму пашчасціць трапіць на іх у сваёй вандроўцы.

**Юген ВАПА**

*Міхал Андрасюк. Поўня. — Беласток; „Ніва”, 2018, 188 с.*

# Я ішоў дарогаю, якой не было...

Я ішоў дарогаю, якой не было...

Такіх радкоў няма ў кнізе прозы вядомага літаратара Беласточчыны Міхала Андрасюка „Поўня”, але менавіта такое двайное ўражанне яна выклікае, калі знаёмішся з ёю. Пра „Поўню” немагчыма гаварыць адназначна як пра кнігі з характэрнымі традыцыйна вызначанымі жанрамі, сюжэтамі, канфліктамі, кампазіцыямі...

У беларускіх дзяржаўных выдавецтвах звычайна кожнае выданне суправаджаецца кароткай анатацыяй, з якой можна даведацца пра аўтара, жанр твора, пра што кніга, якія праблемы падымае аўтар і каму адрасавана выданне... Нічога падобнага ў дадзенай кнізе чытач не знойдзе (так прынята ў еўрапейскіх выданнях), і толькі Яўген Вапа заместа прадмовы адзначыў, што „...без патрэбы ставіць лішнія пытанні наконт свету бачанага і нябачанага...”.

Атрымліваецца, што чытач кінуты на волю лёсу самаму вызначаць тую анатацыю і пазнаваць на старонках твора ўсё бачанае і нябачанае, каб застацца задаволеным ці расчараваным, ці, каб пасля выказаць свае ўражанні ад убачанага...

Але перш — некалькі слоў пра аўтара. Міхал Андрасюк з'яўляецца аўтарам кніг прозы „Фірма” (Беласток 2000), „Мясцовая гравітацыя” (Беласток 2004), „Белы конь” (Беласток 2006), «Вуліца Добрай Надзеі» (Менск 2010) і кніг на польскай мове. Міхася Андрасюка добра ведаюць не толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі. Ён — ганаровы сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, яго творы не раз друкаваліся ў „Дзеяслове”.

Чытачы ж ведалі Міхала паводле яго ранейшых твораў як спакойнага, разважлівага, цікавага апавядальніка і дарадчыка, які ведае сэнс жыццю. У „Поўні” мы бачым трохі знерваванага чалавека-містыка, якога жыццё пакідала па свеце, і які добра ведае кошт кожнаму імгненню ўзнёсласці душы і шчасця і вечнасці сусветнай сакральнай несправядлівасці, якая дзеліць сусвет на жывых і мёртвых. Магчыма, мы атаясамліваем аўтара з героем, але ад гэтага як сутнасць аднаго і другога не мяняецца, так не мяняецца і змест.

Некаторыя творчыя індывідуальнасці аўтара і спецыфіка ўвасаблення тэмы прасочваюцца ў абраным ім жанры твора. Так — кніга прозы, хаця паводле мастацкіх паэтычных сродкаў ёй можа пазайздросціць не адзін аўтар кніг паэзіі: „...бяздушная машына выткала павуцінную сетку чалавечых лёсаў, чаканых сустрэч і нечаканых развітанняў, і назвала яе „расклад адпраўлення цягнікоў” (с. 15), альбо: „...сляпыя вокны ягонай хаты пільнуюць сад абы-як...” (с. 65), альбо: „...кажа бацька і выходзіць на ганак пачытаць вечаровае неба” (с. 69).

Такія паэтычныя звароты аўтара нагадваюць бліскучыя зоркі ў начным небе пры поўні. Але „Поўня” — не паэзія прозы. Такія „зоркі” можна выдаць асобнай кнігай і гэта будзе паэзія прозы. „Поўня” паводле аб'ёму, зместу, некаторых сюжэтных момантаў — бліжэй да рамана, аповесці, але не столькі ў традыцыйным разуменні іх, колькі ў ігнараванні патрабаванняў гэтых жанраў. Тры аб'яднаныя раздзелы пад „Поўняй” паводле стылю, вольнай кампазіцыі, аналітычнай трактоўкі свету, адсутнасці




выражанага скразнога канфлікту бліжэй да жанру эсэ, але, каб сцвярджаць гэта, трэба добра ведаць аўтара.

Неяк Джордж Бярнард Шоу сказаў: „Толькі чалавек, які піша пра сябе і свой час, можа пісаць пра ўсе народы і ўсе часы”.

Вельмі праўдападобна, што аўтар „Поўні” піша і пра сябе...

У сувязі з такім пазнаннем бачанага і нябачанага, у творы (калі гутарка ідзе пра мастацкі твор) узнікае яшчэ адна вельмі спрэчная праблема — праблема размежавання аўтара і героя. Той факт, што навакольнае атачэнне героя цалкам супадае з аўтарскімі рэаліямі (месцазнаходжанне, знаёмыя, сябры Алег, Коля, Яўген і г.д.) яшчэ не факт аўтэнтычнасці аднаго і другога. У мастацкім творы герой можа быць аддзеленым ад аўтара, у эсэ звычайна аўтар вядзе гутарку ад сябе і пра свае рэаліі. У такім творы вельмі шмат суб'ектыўнага і асабістага.

Але калі нехта скажа, што „Поўня” не мастацкі твор, дык я першы кіну ў яго камень.

Так што прыйдзецца самаму чытачу вырашаць, калі для яго гэта вельмі важна, да якога жанру трэба аднесіць „Поўню”. Мы ж толькі нагадаем, што гэта зараз не так і важна.

Больш важным для чытача могуць быць адказы на пытанні: „Што хацеў сказаць аўтар? Чаму — „Поўня”, а не „Маладзік”, ці неяк інакш...

Смешна было б аргументаваць зваротам да Малевіча, маўляў, што ён хацеў сказаць „Чорным квадратам”, але нейкае рацыянальнае зерне ў гэтым ёсць. У „Поўні” закладзена столькі думак, якія хацеў бы аўтар данесці да чытача, што іх хапіла б не на адну такую кнігу, і тут ужо праблема чытача: убачыць нябачанае, пачуць нячутае, зразумець незразумелае...

Дык можа трэба проста выйсці калі на балкон свайго шматпавярховіка, прыгледзіцца пільна ў зорнае неба, на поўню, і зразумець нешта нашмат большае, чым сэнс назвы кнігі...

Чытач звычайна трапляе на добра пракладзеную лінію сюжэту і далей, як па накатаным грунце, перакачваецца з адной старонкі на другую. Прыйдзецца трохі расчараваць чытача: так лёгка пакатацца па „Поўні” не ўдасца. (Тут варта заўважыць, што ёсць нейкая заблытанасць сюжэта, у якой, каб разабрацца, трэба ўважліва чытаць і перачытваць твор). Аўтар застаўляе блукаць свайго героя (а разам з ім і чытача) дарогамі, якія былі і якіх не было, праводзіць іх па лабірынтах пераемнасці часу і пакаленняў, зямных і незямных вымярэннях, паралельных і не паралельных рэаліях з невялікай розніцай, альбо адсутнасцю як такой між імі... І толькі, ужо асіліўшы добрую частку дарогі, пачынаеш улаўліваць тую нябачную скразную нітку, якая звязвае ўвесь твор у адно цэлае.

І толькі тады пачынаеш задумвацца пра хуткацечнасць і вечнасць, пра пераемнасць і святасць, пра насычанасць поўні і пра маладзік, які „рогі задраў”. Каму што...

У „Поўні” цыганка гаворыць: „Сёння нікуды не паедзеш, позна. Яшчэ не адзін раз спознішся, не адзін раз пераблытаеш дарогі...” (с. 77). Здавалася б, усё так проста, ажно не: „Бяру нажоўку і цягну — туды і назад, у будучае і мінулае, і пад ногі асыпаецца няўлоўнае „сёння” (с. 82). І гэта „сёння” не як імгненне між мінулым і будучым, а як вынік руплівай працы будучага і мінулага („... бяру нажоўку і цягну...”). А гэта ўжо філасофія. Разважаць пра даволі такі простыя і традыцыйныя рэчы ў форме нетрадыцыйнай манеры — не проста. А ўспрымаць і асэнсаваць іх — яшчэ цяжэй. Але гэта ўжо праблема чытацкая.

Тут не кожны зможа абмазгаваць складаныя перыпетыі быць па-за часам і быць па-за рэальнасцю ў рэальным. А яшчэ, праблема ўскладняецца тым, што аўтар піша не дзеля таго, каб падабацца чытачу, а каб напісаць тое, што ён хоча напісаць. І такім чынам аўтар стварае свой сусвет, які добра зразумелы яму аднаму і тым, хто захоча яго зразумець...

Праўда, тут ёсць добрая доля рызыкі. Іншы раз такі сусвет застаецца па-за ўсведамленнем чытача. Чытач не дацягвае да ўзроўню асэнсавання праблем і культурнага мыслення аўтара.

Ва ўсякім разе рызыка ў тым, што кніга можа не задаволіць масавага чытача, бо такога чытача Міхась Андрасюк не парадуе захапляючым і вострым сюжэтам і не пазабавіць раскошнымі і слязлівымі сцэнамі любоўнага трохкутніка. А яшчэ „Поўня” не зробіць чытача больш шчаслівым і багатым, і не адкажа на хвалюючыя пытанні на злобу дня „як жыць далей?”, і „што яму рабіць?”, і „што яму не рабіць?” — на такія пытанні звычайна адказвае кулінарная кніга.

Ды і кожны творца, які творыць, думае не пра тое, каму трапіць у рукі яго тварэнне, і хто будзе яго чытаць (не чытаць), а пра тое, што ён творыць.

„Поўня” знойдзе свайго чытача як сярод аматараў-літаратараў, так і тых, хто прафесійна займаецца літаратурай: пісьменнікаў, крытыкаў, літаратуразнаўцаў, а таксама студэнтаў літаратурных і філалагічных факультэтаў і тых, хто задумваецца над вечным і смяротным. У „Поўні” вельмі шмат узорнага і павучальнага для іх.

Такія акалічнасці, нягледзячы на тое, што панятак эліта сёння з'яўляецца размытым і амаль што не выкарыстоўваецца, даюць падставы аднесці „Поўню” у склад элітарнай літаратуры, больш прызначанай для літаратурнай эліты, чым для масавага чытача.

...І тады становіцца зразумелым, што „ісці дарогаю, якой не было” — гэта творчая манера аўтарскага пісьма Міхася Андрасюка. Манера сучаснага пісьменніка еўрапейскага ўзроўню.

**Янка ТРАЦЯК,**
гал. рэд-р „Новага Замка”,
Гародня


Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Жыццё было цяжкае але весялейшае

*Размова з **Ірэнай МАРТЫНОВІЧ** з Орлі, у дзявоцтве Троц, народжанай у Рудутах у 1950 годзе.*

**— Ці помніце сваіх дзядоў?**

— Дзедка з боку мамы — Кірыла Федарук, а бабуля Галена. Мама Марыя паходзіла з Вітава, была з большай сям'і, дзе было чацвёра дзяцей.

Дзед Рыгор па бацьку меў тры жонкі. У бежанстве памерла другая жонка і прывёз трэцюю з бежанства, з Калугі — маю бабу Веру Сабацееву з двойкай ейных дзяцей па прозвішчы Кузёнка. У бежанстве, у 1918 годзе нарадзіўся мой бацька Марк; бацька згадваў, што ўжо помніў, як вярталіся з бежанства. Бабуля з дзедкам мелі трое дзяцей: Пятра, Грышку і Марка. Бабулю памятаю, бо жыла са мною ў Рудутах, размаўляла па-руску, памерла ў 1964 годзе, калі мне было чатырнаццаць.

У Рудутах жылі вельмі бедна. Памятаю, што хатка была саломаю крыта, маленькія вокны. Рудуты пасля бежанства былі спалены, асталося толькі некалькі хат. У той хатцы жылі мы. Дзед рабіў драўляныя бораны на продаж.

Я памятаю ўсё з чацвёртага года жыцця, напрыклад, як наш конь здыхаў у хляве — абаперся аб сцяну і не мог легчы. Памятаю, як хацела ўкрасці ў бабулі яйка з куратніка на цукеркі, але не ўдалося. Намовіў мяне прадавец, гаворачы, што мне не купляюць нават цукеркаў, і калі я прынясу два яйкі, то мне прадасць. Я зайшла ў куратнік, а акурат выйшла з хаты бабуля. То я схавалася ў куток і доўга там сядзела з курамі. Мяне цэлую аблезлі курыныя вошы. Бабуля вярнулася ў хату, а я ў крык! Пачула маці з поля, я ёй прызналася, то і дастала за тыя яйкі.

**— Ці ў Рудутах быў калгас?**

— Недзе ў 1955 годзе калгас арганізавалі, было калгаснае прадшколле. Мой бацька, калі аджаніўся, то пабудаваў новы дом у Вітаве; дзедка даў матэрыял на дом. Але калі пасля двух гадоў паўстаў у Рудутах калгас, бацькавы калегі пераканалі яго вярнуцца ў Рудуты і запісацца ў калгас. І бацька раскінуў свой дом у Вітаве і перавёз у Рудуты.

І людзі працавалі. Было прадшколле ў Надзі Багацэвіч-Батуры. Было многа дзяцей. Памятаю — давалі нам хлеб з джэмам, гулялі, хадзілі на шпацыры, лежакавалі на падлозе.

А калі мне было дванаццаць гадоў, то я з мамай сеяла ў калгасе махорку, на днёўку. На гарышчы аборы была сушыльня. Пасля людзі закручвалі тую махорку ў газеты і курылі. Памятаю, што яшчэ ў 1964 годзе калгас быў. Яго працаўнікам давалі цукар у мяшках. То бабуля ўсё гаварыла: „Прынясі мне квартачку цукру, то я табе канфет здзелаю". І рабіла вельмі смачныя цягучкі.

Бабуля таксама замаўляла. Ішлі да яе, неслі малых дзетак і апальвала, малілася. Каб зубы не балелі, ад высыпкі...

**— Калі ў Рудуты правялі электраток? Ці былі „точкі"?**

— Электраток падключылі бадай у 1956 годзе. А „точкі" былі ўжо раней; давалі песню „Кукулэчка".

**— У Рудутах людзі займаліся саломапляценнем...**

— Мае бацькі найперш займаліся кантрактацыяй гусей. Я ўжо з дзевяці гадоў пасвіла гусей на аблогах на дарозе, каля пяцідзесяці штук. У бацькоў быў драбінкавы воз і вазілі гусей у Бельск.

Пасля пасвіла і сваіх свіней. А ўжо авечак, кароў, коней пасвілі пачаргова. Нашы пашы былі з боку Тапаркоў, Шарнёў.

Было бедна, але вельмі весела. Было многа моладзі. Да жніва выходзілі з сярпамі, а вечарам ішлі на раку памыцца. Пасля паявіліся касілкі жалезныя, конныя, то падбіралі, вязалі. Цяжка было, цяжка. А панавала жара, духата. Коньмі нельга было працаваць, то выязджалі ў поле аж пад вечар. Сонца заходзіць, тады едзем касіць.

**— Ці людзі выраблялі сваё ільняное палатно?**

— Вядома, выраблялі. Памятаю тыя трапачкі. І слалі — у нас такі луг каля хаты быў. Мачылі ў рацэ. А вытканае слалі і выбельвалі. Усё памятаю.

Шылі сарочкі — я яшчэ ў такіх сарочках хадзіла штодзень. Былі шорсткія, але хадзілі. Мама шыла, бо наша мама была краўчыхай. У тых сарочках я бегала, і свіней пасвіла.

**— Як тады жылі Рудуты?**

— У людзей былі вошы. А ў хатах былі тараканы, такія вялікія клапы. Раз бачыла, як людзі сышліся, а тыя клапы пераходзілі цераз вуліцу, такія круглыя, цвёрдыя, тоўстыя. Калі змеркне, то ў хаце было іх чуваць: „шляп, шляп" — дзесь упадзе. А пад печкай быў пограб на бульбу. І там, пад падлогай, поўна іх было, то бацька запальваў шмату на калку з дэнатуратам і іх асмальваў і яны ўсе падалі там. Яны людзей не кусалі.

Але вошай то было! Такія чырвоныя, былі таксама ў адзенні, у швах. Ад іх шмаравалі сарочкі і галовы нафтай. І яшчэ помню, як вошай білі на вуліцы: бабы сядзелі на лавачках і адна другой душылі вошай на галаве.

**— Ці дзеці хадзілі басанож?**

— Ужо не, нейкія трэпы бацькі куплялі. Было цяжка, але весела.

**— У Рудутах была свая школа?**

— Была, сем класаў. Навучанне адбывалася ў трох месцах: у Цэтры, Добаша і ў другога Добаша; раз там, раз там. Вучылі Юрак Сахарэвіч з Орлі, Святлана з Войшак, Вера з Бельска.

**— У Рудутах было некалькі пажараў...**

— Мы жылі ў канцы вёскі ад Кашалёў, да нас не даходзілі.

**— Вясковая крама?**

— Спачатку, цягам многіх гадоў, крама была ў Куліка; як я памятаю з маленства. А пасля сваю мураваную краму пабудаваў ГС.

**— Ваша пазнейшая адукацыя?**

— Прыходзіў да бацькоў настаўнік Сахарэвіч і намаўляў ісці ў сельскагаспадарчую школу ў Орлі, але бацькі не хацелі. Пайшла здаваць экзамен у гайнаўскі белліцэй, але не здала. І асталася дома.

**— Якім было тады Ваша жыццё дома?**

— У сям'і была яшчэ адна сястра, тры гады старэйшая. Але ўсё рабіла я — не было змілавання. Мусіш устаць у тры гадзіны раніцы, каб каробку шыць або канём бульбу агартаць. Трэба было, мусіла працаваць як дарослы чалавек. Сястры неяк шанцавала, а найгорш было мне.

**— А Ваша мама?**

— Мама больш займалася шыццём. Патрэбныя былі грошы, жыць было цяжка. Людзі неслі да мамы шыццё, вёска вялікая, а адна краўчыха. Мама пры машыне шыла, а саломай займаліся бацька, я і сястра; пакуль не выйшла замуж.

**— А як выглядала Ваша самастойнае жыццё?**

— У 1969 годзе выйшла замуж, у Москаўцы, пажыла шэсць месяцаў і вярнулася дадому. Сем месяцаў жыла пры бацьках, узяла развод і прыйшла ў Орлю да Колькі Мартыновіча. Усяк жылося. Было цяжка, бо трэба было ў 1973 годзе пабудаваць мураваны дом. Але давалі пазыкі. Настала інфляцыя — узяла пяцьдзясят тысяч злотаў, а „пеўнем вярнула". Нарадзіліся нам дзве дачкі; муж памёр у 2017 годзе.

**— Праца?**

— Пачынала працу ў бетанярні пры машыне: машына выпускала пустакі, яны ішлі па канвееры, трэба было іх адбіраць. Са мною працавала Марыся Мураўская. Не была гэта цяжкая праца, але патрэбны быў спрыт. Гатовыя пустакі хапала па дзве штукі грэйферам на канаце. Пасля стала прыбіральніцай у старой пякарні; загадчыкам быў Толік Несцяровіч. А пасля прыбірала гэсаўскую гасподу. Далей — дзевяць гадоў працавала ў кіёску „Руху" ў Орлі. Пасля прыбіральніцай у асяродку здароўя, пасля шэсць гадоў сястрой ПЦК і — на пенсію. То калі я падавала дакументы ў ЗУС, то чыноўніца здзівілася: „А дзе ж Вы не працавалі?" Але тады працы было колькі хочаш, з работы на работу можна было пераходзіць. А цяпер трэба шукаць.

**— Скажыце, што гэта за прафесія: сястра ПЦК?**

— Гэта была апека над пажылымі асобамі: вазілі ім рэцэпты, мералі ціск крыві, а таксама прыбіралі, варылі. Адзінокім, але бывала, што побач жылі іх сем'і, напрыклад, у Кашалях насупраць жыў сын Пыж, а трэба было займацца яго бацькамі. Так было па ўсёй краіне — выкарыстоўвалі як маглі. Аж памяняліся законы. А зараз зноў нешта падобнае, але трэба за паслугі плаціць...

**— Трэба таксама сказаць, што Вы — пчалярка.**

— Пчалярствам стала я займацца ў дваццацігадовым узросце. Спачатку ў Рудутах была я памочнікам у свайго бацькі, Марка Троца. Пасля, калі выйшла замуж, мела свой пчальнік у Орлі — пятнаццаць вуллёў. А калі бацька захварэў, прыйшлося працаваць на двух пчальніках адначасна. Умовы для пчол у Орлі каля ракі Арлянкі аказаліся ненайлепшымі. Падмоклага грунту пчолы не любяць, часцей хварэюць, даюць менш мёду. Зараз ужо пчалярствам не займаюся.

**— І яшчэ ў адной справе Вы незвычайная жанчына. Я помню, што калісь Вы выдатна ездзілі на матары, а гэтага амаль не сустракалася.**

— На матацыкле пачала я ездзіць у трынаццаць гадоў, на «вуэфэмцы». Я расходвала бацькаў бензін, а ён думаў, што суседзі падкрадаюць. Мой дваюрадны брат Владэк, які жыў па-суседску, вучыў мяне ездзіць — па лузе, па вуліцы, у панадворку. Памалу, памалу і навучылася.

У 1978 годзе атрымала вадзіцельскія правы на матацыкл і на аўтамабіль. Працавала ўжо ў кіёску „Руху" і купіла ў краме ў Орлі матацыкл, чорную «ВСКу». Не здаралася ў той час, каб жанчына ездзіла, хаця адна пажылая сялянка са Шчытоў прыязджала ў Орлю, але памалу. Я так ганяла на маторы, што легкавушкі абганяла — у Нарву, у Сямятычы... А ў 1996 годзе купіла новы «Фіат-125», крэмавы колер. Ездзіла, але пагоршыўся зрок, пайшла на аперацыю вачэй і перастала ездзіць.

**— Вашае імя Ірэна, але ў Орлі Вас называюць Ганаратай.**

— Я нічога супраць не маю. Гэта папросту другое, атрыманае ад людзей імя. Калі я прыйшла жыць у Орлю, у той час па тэлебачанні паказвалі серыял „Чатыры танкісты і сабака". Мой цесць і суседка, Марыся Адзіевіч абгаварылі мяне і Марыся кажа: „А ты то як Ганаратка, такая хвацкая". І так пайшло. Прыгадаю адно здарэнне — тэлефаную ў Кашалі да аднаго гаспадара, каб купіць свінчо на мяса, прадстаўляюся: Ірэна Мартыновіч. А ён кажа, што такой не ведае. То я кажу, што Ганаратка. „Так трэба было адразу гаварыць", — адказаў ён.

**— Вы былі ў партыі?**

— Не, чымсь такім я не займалася.

**— Як, паводле Вас, памянялася жыццё?**

— Калісь жыццё было цяжкае, але вясёлае. Усе жылі дружна: спрагаліся, супольна шылі каробкі, спявалі. Прыйдзе двух-трох суседзяў — цэлая кухня людзей і спяваюць харошыя песні; я ад іх навучылася. Людзі былі весялейшыя, дружныя. А зараз адзін другога з зайздрасці з'еў бы. Цяпер зусім іншы народ. Я пастаянна кажу, што я ў сваім жыцці многа дапамогі атрымала ад Бога. Бачу, дзе Гасподзь мяне благаславіў.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Дранікі па-японску

Тэкст і фота **Ніны ВАЎРАНЮК**




Люблю я падарожжы. Але ж не такія, дзе я засяляюся ў гатэлі, ем у рэстаранах адчыненых толькі пад турыстаў ці гляджу самыя папулярныя, апісаныя ў турыстычных даведніках аб'екты. І не толькі таму, што мне проста не хапіла б на гэта грошай. Я ўсё ж такі люблю ў іншай краіне адчуваць сябе мясцовай, так як карэннае насельніцтва. Таму калі я ў падарожжы, заўсёды стараюся паспрабаваць мясцовую кухню. І нават калі я за мяжой амаль год, мне рэдка здараецца сумаваць па родных стравах — у кожнай краіне столькі смачных харчоў, якіх варта пакаштаваць!

Але калі я чую пра рэстаран з роднай кухняй на іншым кантыненце, мне цікава пабачыць і праверыць ці яна так як родная смакуе тысячы кіламетраў ад хаты. Так у мінулым годзе я змагла паспрабаваць варэнікі ў бары „Babci Kuchnia" ў сталіцы Філіпінаў, Маніле. Цяпер я ў іншай азіяцкай краіне — Японіі. І калі два месяцы таму назад я пачула ад мясцовай сяброўкі пра рэстаран „Мінск", я ведала, што мне проста трэба туды зайсці.

Рэстаран „Мінск" знаходзіцца ў адным з самых дарагіх раёнаў Токіо — Рапонгі, таму мне тое месца не зусім па дарозе і крыху часу прайшло, пакуль я вырашыла ў ім павячэраць. Раней праверыла іхнюю інтэрнэт-старонку і меню, якое даступнае на трох мовах — англійскай, рускай ды японскай. Беларускай, на жаль, няма. Калі я пабачыла ў меню мае любімыя дранікі, на наступны дзень я была ўжо дамоўлена з мясцовым сябрам, што пасля працы пойдзем і праверым, як смакуе беларуская кухня ў цэнтры Токіо.

Ужо калі я ўвайшла ў рэстаран, мне стала дзіўна. Усярэдзіне ўсё нагадвала памяшканні, якія я ведала з экскурсій па Беларусі. І тады пачула знаёмае „Itadakimasu", якім ва ўсіх крамах ці рэстаранах персанал вітае гасцей. Афіцыянты-беларусы гаварылі з гасцямі на японскай мове, а між сабой, на жаль, на рускай. Гасцей было многа і амаль усе мясцовыя. Калі я чакала сябра, жанчына старэйшага ўзросту прапанавала мне паспрабаваць боршч, які вельмі ёй пасмакаваў. Яна, здаецца, не ведала, колькі баршчоў у сваім жыцці я ўжо паспрабавала.

Калі роўна ў дзевятнаццаць (японцы амаль ніколі не спазняюцца) прыйшоў мой сябар, мы паклікалі афіцыянтку і з вялікага меню выбралі любімыя стравы. Вядома, я адразу заказала дранікі, якія былі галоўнай мэтай гэтага візіту. На вялікі жаль, майму сябру 18 гадоў, а ў Японіі алкаголь дазволены толькі тады, калі табе споўніцца дваццаць. Таму і я, у знак салідарнасці, абышлася смакам, гледзячы на багатае меню з дрынкамі, і заказала гарбату. Мароженая гарбата каштавала столькі, што шот гарэлкі — 15 злотых, хаця ў Японіі звычайна гарбату прапануюць бясплатна. Мой сябар таксама заказаў гарбату ды рэкамендаваны старэйшай японкай боршч і варэнікі з мясам. Я ў дабаўку ўзяла яшчэ варэнікі з сырам.

Дзякуючы таму, што ўсе столікі былі занятыя, нас пасадзілі пры бары і мы маглі паглядзець, як кухары рыхтуюць нашы стравы. А кухары — японцы! Я была вельмі рада, што змагла гэта пабачыць, бо калі б хто-небудзь мне пра тое расказаў, я б яму не паверыла. Смакам ежа сапраўды нагадвала тую, якую я столькі разоў ела на Беларусі ці на роднай Беласточчыне. Толькі калі сачылі за працай кухараў-японцаў ды пабачылі рахунак, я тут жа зразумела, што мы яшчэ ў Токіо. За ўсё заплацілі амаль 130 зл., уключаючы падатак, які тут далічваюць ва ўсіх крамах. На шчасце, у Японіі няма культуры чаявых і хоць тут я з палёгкай уздыхнула, што не давядзецца плаціць яшчэ больш.

Калі хто-небудзь плануе кулінарную экскурсію ў Японію, зразумела, трэба паспрабаваць вядомае на ўвесь свет сушы ці вельмі смачныя морапрадукты. Тым не менш, калі будзеце ў Токіо, загляньце ў рэстаран „Мінск" і паспрабуйце любімую родную кухню з японскім твістам!







## Майскія святкаванні

Число 1 мая запісанае ў календары як Міжнародны дзень працы. Дзяржаўным святам і вольным днём ад працы Першамай лічыцца з 1950 года. Даўней святкаванні Дня працы шумна адзначаліся ва ўсёй краіне, асабліва на прадпрыемствах. Арганізаваліся Першамайскія шэсці. Тагачасная ўлада застаўляла працоўны народ да ўдзелу ў шэсцях. Забараняла і нават пагражала штрафам тым сялянам, якія збіраліся працаваць у полі. А рабочыя на прадпрыемствах прымалі абавязацельствы ў гонар Міжнароднага свята працы. Да ініцыятывы рабочых падключалася моладзь. Памятаю, напрыклад, што наш кузаўскі гурток 12 красавіка 1959 года ўдзельнічаў у пасадцы лесу. За тры гадзіны пасаджана было 2500 саджанцаў сасны ў карысць Кляшчэлеўскага лясніцтва. Апрача таго кожны член абавязаўся пасадзіць два дрэўцы ў сваім агародзе і зрабіць падпіску на «Ніву». Мастацкі гурток падрыхтаваў беларускую пастаноўку Аляксандра Чужыніна «Пярэстая красуля». А пазней, калі я працаваў на чыгуначнай станцыі ў Чаромсе, удзельнічаў у першамайскіх шэсцях, якія канчаліся каля насычальні. Затым у суседнім сасняку на ўлонні натуры пачыналіся святкаванні чыгуначнікаў у сяброўскай кампаніі. Півам і закускай, разумеецца, забяспечваў Кляшчэлеўскі ГС. А на пляцоўцы побач дома культуры «Калеяж» на адвячорку пачыналіся народныя танцы да позняй ночы.

Зараз усё адмянілася. Сёлета 1 мая святкаваў я ў палаце № 11 Рэабілітацыйнага аддзялення Гайнаўскай бальніцы. У Гайнаўцы царыла цішыня. Толькі мянушка «чырвоная» засталася пры Гайнаўцы, дзякуючы Барысу Нікіцюку — аўтару выдадзенай у 1958 годзе кніжкі «Czerwona Hajnówka». 2 мая адзначаецца Свята сцяга, а 3 мая — дзень Канстытуцыі. Гэта чарговы вольны дзень ад працы, які ў «чырвонай» Гайнаўцы адзначаўся «з вялікай помпай». Гісторыя з ходам часу мяняецца, а мы, народ, паспяваем з яго духам.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Ехалі і паехалі

Пасля зімы на некаторых нашых гравійках і асфальтавых дарогах павялічылася колькасць ухабін. Гэтак ёсць, між іншым, на ваяводскай дарозе № 687 з Юшкавага Груда праз Бандары ў Нараўку і далей у Навасады. З красавіка гэтага года гмінны радны з Новага Ляўкова і войт Нараўчанскай гміны выслалі пісьмо ў Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог, у якім прасілі зрабіць рамонт маставой на адрэзку ваяводскай дарогі ад моста на Баброўцы ў Новым Ляўкове да чыгуначнага пераезда ў вёсцы Плянта. Час ідзе і няма ніякага зруху.

Самаход дарожнай службы ехаў цераз Новае Ляўкова ў Плянту і далей 25 красавіка г. г. Ён цягнуў за сабой поўную прычэпку з г.зв. бітумічнай масай у мяшочках, але ўхабін у маставой у Плянце ніхто не „латаў". Варта дадаць, што пагода ў той дзень з самай раніцы была сонечная і асфальтавае палатно было сухое. Дарожныя рабочыя зрабілі сабе веснавую прагулку? **(яц)**



## ЗАПРАШЭННЕ

Аб'яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-Бы

**«Пагаворым пра тое, як беларускі джаз нарадзіўся ў... Беластоку.»**

Госцем будзе музыка, паэт і журналіст з Менска **Віктар Сямашка.**

09.05.2019 (чацвер) 18.00

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Вясновы канцэрт у Беластоку







Гэта быў самы прыгожы канцэрт за цэлы бягучы навучальны год! Яшчэ да выступлення я спытала ў Колі і Кандрата, ці схочуць праз год выступаць у «Падляшскім вянку». Яны, можна сказаць, ужо кавалерка. Пакуль хлопцы запярэчаць, у іх вачах убачу спалох, які скажа больш за ўсе прыгожыя словы. Не, гэта немагчыма! Ніколі не пакінуць танцаў. Гэта прыгода іх жыцця, захапленне...

— У нас такая ўжо традыцыя, — пачаў вядучы канцэрт Зміцер Косцін, у прыватнасці тата Кандрата, — што спатыкаемся тут з гарадзенскімі сябрамі. Слова «традыцыя» прагучала як заклінанне будучыні. Імпрэзу з гарадзенцамі, другі раз па ліку, наладзілі найперш для саміх сябе ў Акадэмічным цэнтры культуры. У «Гарадзенскіх каруначак» можна шмат чаму навучыцца. У іх багаты рэпертуар і фантастычныя аранжыроўкі. Працуюць пры Цэнтры педагагічнай практыкі Гарадзенскага каледжа мастацтваў пад кірункам Надзеі Сёмкінай, Вольгі Плотнікавай і Юліі Пузач. Зараз прыехалі з новымі танцамі, песнямі і касцюмамі.

«Падляшскі вянок» старанна падрыхтаваўся і ўразіў новай праграмай. У ансамблі займаецца 46 удзельнікаў, якія складаюць ужо дзве групы. У час прэзентацыі танца «Птушыны панадворак» дэбютавала чатырох новых хлапчукоў: Дам'ян Галубоўскі, Клім Латышонак, Габрысь Казырскі і Міколка Сцепанюк.

Вядома, не сцэне не магло абысціся без «Лявоніхі» і старых хітоў як танец «Юрачка» з цудоўнымі салістамі Алесем Здрайкоўскім, Касяй Іванюк, Марысяй Пякарскай і Сарай Скаўронскай. Настрой вясновых і летніх пахаў наклікаў твор «Пахне чабор» пад дэкламацыю Кандрата Косціна. Яго рамантычна прадставілі Кася Іванюк і Коля Здрайкоўскі. У праграму ўвайшлі дэкламацыі Дамінікі Ліпай (яна агучыла верш Сяргея Грахоўскага «Табе зайздросціць сонца») і песні ў выкананні Юліі Баравік ды трыо Алеся Хаманюка з сяброўкамі.

У час імпрэзы былі названыя дасягненні «Падляшскага вянка», у тым ліку ўдзел у XVI Міжнародным моладзевым фестывалі ў Прыморску ў Балгарыі. Неўзабаве чакае іх чарговы, міжнародны выклік. **Наш «Падляшскі вянок» будзе прадстаўляць рэгіён на сёлетнім фестывалі Актава культур.** Будзем усе перажываць за вас!

Другая сустрэча з гарадзенцамі дазволіла пабачыць вялікі прагрэс «Падляшскага вянка». Год таму нашы сябры яшчэ трымаліся збоку. А зараз яны выступілі як партнёры і нават перабілі ў песнях знакамітых гасцей. За гэтым усім стаіць вялікая праца і талент мастацкай кіраўніцы Аксаны Прус і цэлага аб'яднання АБ–БА.

Міраслаў Здрайкоўкі, які з трапяткім сэрцам назіраў за выступленнямі сыноў, пасля прызнаўся:

— Я то шкадую, што не школьнік, а то танцаваў бы ў гэтым ансамблі!

**Ганна Кандрацюк**
**Фота: Яраслаў Прус**

Аркадзь КУЛЯШОЎ

## Я ў лузе кветкі не сарваў ніводнай

Я ў лузе кветкі не сарваў ніводнай,
Ніводнай зоркі з неба не схапіў,
І, па жаданню прымаўкі народнай,
Ні разу іх каханню не дарыў.

Хай цешаць вока кветкі на палянцы,
Каб мы з табой гулялі сярод іх, –
Яны змарнеюць у гранёнай шклянцы,
Як мы без сонца сярод сцен нямых;

Да зор далёка: шляхам ехаць конным –
Не век, не два, а сто вякоў міне –
Каб іх здабыць, на караблі фатонным
Ужо ляцець не давядзецца мне.

Не вытрымае сэрца падарожжа –
Заглухне бездакорны мой матор,
Што пыл глытаў, вычыхваў бездарожжа...
Прымі яго без кветак і без зор!

## УВАГА КОНКУРС! № 19-19

**Выйшлі 12 малойцаў, вынеслі 52 сокалы, выпусцілі 365 лебедзяў.**

**(Г.., м...., т...., д...)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 26 мая 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адаз на загадку № 15: берагі (Два браты глядзяць на сябе і ніколі не сыходзяцца). У гэты раз не было правільных адказаў.**

# Белавежская пушча

## — РАЗМАЛЮЙЦЕ!



Наш старажытны лес — найбольшы скарб беларусаў! Ён распалажаны па абодвух баках мяжы і лічыцца нацыянальным паркам. У Беларусі пяць нацыянальных паркаў, з якіх самы буйны — Белавежская пушча. У пушчы растуць 900 відаў раслін, у тым ліку рэдкіх і знікаючых. Парк вядомы сваімі старажытнымі дубамі, узрост якіх перасягае 500 гадоў.

Белавежская пушча занесена ў спісак сусветнай спадчыны ЮНЕСКА і з'яўляецца месцам пражывання зубра, самага буйнага прадстаўніка еўрапейскай фаўны.

Па беларускім баку пушчы знаходзіцца вёска Віскулі, дзе ў 1950-я гады быў пабудаваны палац, які служыў рэзідэнцыяй кіраўнікоў СССР. У 1991 годзе там было падпісана «Белавежскае пагадненне», якое спыніла існаванне СССР і дало пачатак узнікненню незалежнай Рэспублікі Беларусь, Украіны, Малдовы ды іншых краін.

На польскім баку пушчы шмат курганоў. Тут ад стагоддзяў пражываюць беларусы. Наша духоўная і матэрыяльная культура звязана са старажытным лесам і яна спрыяе развіццю элітарнага экатурызму. Гэта вялікі шанц для развіцця нашага грамадства.

**(з-ка)**



*(Беларуская народная легенда)*

# Адкуль зязюля

Калісь жыла на свеце багатая княгіня, у якой была дачка-прыгажуня. Чамусьці ўздумалася княгіня выдаць сваю дачку за нейкага старога. Доўга працівілася дачка волі маці: маліла, заклінала ўсім светам не аддаваць яе за нялюбага, але ніякія просьбы не схілілі княгіні да іншага рашэння.

Нарэшце назначылі і дзень шлюбу.

Настаў той дзень, сабраліся госці, з'явіўся жаніх. Глядзіць княгіня — няма маладой. Пачала яе шукаць па пакоях, на гарышчы, у падвалах. Нарэшце пайшла ў сад. Там убачыла дзяўчыну, якая прысела пад вішанькай і жаласна плакала.

— Дык хавайся назаўсёды! — пракляла ў злосці яе маці.

У той момант князёўна стала птушкай і загаласіла: ку-ку! ку-ку!

*(гак)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 19-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 15-2019:**

Спорт, ты, ар, Пі, на, смешны, Ас, вясна, пятніца, тая, гол, нямы, Ян, каршун. Салат, прас, ягня, святляк, мята, песня, лішні, нацыя, тры, рыс.

Узнагароды, **запісны кніжкі**, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Дар'я Несцярук, Патрыцыя Нявінская, Наталля Косік, Матэвуш Крот** з Орлі, **Пятрук Сенчыкоўскі, Каміль Мартонік, Патрыцыя Каранкевіч** з Залук. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Bank | Arkadiusz | Jedzenie | |
| | Broda / Skit | Imię | Tasia | Bard | Oddział | | | | |
| | | | | Skwar / Len | | | | | |
| | Błyskawica | | | | | | | | Śmiech |
| Popiersie / Tęcza | | | | | | | | | |
| Ar | | Wir / Ona | | | | Dym | | | |
| | | As | | Miednica umywalka | | | | | |
| | Karaś | | | | | | | | |

# «Калебка» дзейнічае актыўна і паспяхова

Тэкст Аляксея МАРОЗА

Беларускі калектыў дашкольнікаў «Калебка» Дзіцячага садка № 1 у Гайнаўцы робіць стаўку на прэзентацыю беларускай культуры і вяртанне да традыцыі. Дзеткі з гэтага калектыву нядаўна здабылі ўзнагароду Гран-пры Конкурсу тэатральных калектываў на беларускай мове. Занялі таксама прызавыя месцы ў дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова». Актыўна праводзяць час, рыхтуючыся да выступаў з рэпертуарам, які абапіраецца непасрэдна на нашы беларускія абрады і традыцыі. Перад публікай у Гайнаўскім белмузеі і ў Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных восенню мінулага года прэзентавалі багаты абрад «Вячоркі», які абапіраецца на вясковыя традыцыі Гайнаўшчыны. Перад Вялікаднем традыцыйна размалёўвалі яйкі і знаёміліся з велікоднымі абрадамі. Вучыліся выконваць буславыя лапы і знаёміліся з веснавымі абрадамі. Раней развучылі і прэзентавалі абрад «Масленіца». Бацькі дашкольнікаў падрыхтавалі на конкурс стравы характэрныя да масленічнага перыяду.

У калектыве дашкольнікаў «Калебка» займаецца сорак дзетак. Вучацца яны беларускай мове, культуры і нашым традыцыям у дзвюх групах. Старэйшымі дашкольнікамі займаюцца настаўніцы **Міраслава Ніканчук**, **Ала Супрун** і **Вольга Вілюк**, а малодшымі апякуецца настаўніца **Эва Шыманская**.

— Калектыў «Калебка» гэта гордасць нашага прадшколля. Я вельмі рада, што «Калебка» здабыла Гран-пры Конкурсу тэатральных калектываў. Нашы дзеткі дабіліся поспехаў таксама ў конкурсе «Роднае слова». «Калебка» прэзентуе публіцы беларускія прадстаўленні і абрады ў розных месцах. Я пад вялікім уражаннем працы, якую з дзеткамі выконваюць нашы настаўніцы, — сказала дырэктар садка № 1 у Гайнаўцы Іаанна Рушук.

Перад Вялікаднем у Гміннай публічнай бібліятэцы ў Нарве прайшлі майстар-класы па маляванні яек з прымяненнем даўніх узораў, якія захаваліся ў мясцовай традыцыі. Прынялі ў іх удзел члены калектыву «Калебка», іх бацькі і настаўніцы.

— У Нарваўскай бібліятэцы мы размалёўвалі яйкі ў адпаведнасці з даўнімі традыцыямі. Дзеткі і бацькі выконвалі прыгожыя аздабленні. З дапамогай палачкі і шпілечкі малявалі гарачым воскам на яйках крыжыкі, кветачкі, елачкі і іншыя ўзоры. Кожнае размаляванае яйка было арыгінальным і непаўторным. Аб састаўленні даўніх узораў і стварэнні цэласных кампазіцый на яйках вырашалі дзеткі і бацькі. Яйкі трапілі на святочныя сталы, — распавяла настаўніца Міраслава Ніканчук.

Дзеткі і бацькі знаёміліся таксама з рэцэптам і спосабам падрыхтоўкі буславых лап.

— Бусел — сімвал шчасця. Вяртанне бусла ў сваё гняздо вясною абазначала дабрабыт. Нашы продкі выпрацавалі традыцыю вітання буслоў і заахвочвання іх пасяліцца ў сваёй вёсцы. Таму напярэдадні святкавання Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы пяклі буславыя лапы і з імі дзеткі віталі прыляцеўшых з цёплых краін буслоў, а пасля елі гэтыя лапы. Буслоў віталі ў дзень Дабравешчання словамі: «Бусел, тут твая лапа, тут твая хата», — сказала настаўніца Міраслава Ніканчук сваім дашкольнікам у час майстар-класаў. — Самае важнае было знаёмства з нашымі традыцыямі. Здаўна перадаваліся яны з пакалення ў пакаленне, а цяпер ім пагражае знікненне. Мы апошнім часам многа ўвагі адводзім якраз вяртанню да беларускіх абрадаў і традыцый. Мы з Алай Супрун пабывалі цяпер на двух майстар-класах, дзе вучыліся як найбольш успрымальна і цікава для дзетак знаёміць іх з нашымі традыцыямі, якія апошнім часам сталі знікаць. Мы моцна ўдзячныя дырэктар Гміннай публічнай бібліятэкі ў Нарве Анне Андраюк-Савіцкай за прапанову арганізацыі з удзелам нашых дзетак такіх цікавых майстар-класаў. Мы таксама ўдзячны бацькам, якія ўключаюцца ў дзейнасць калектыву і многа нам дапамагаюць. Перад Вялікаднем майстар-класы ўвялі нас у святочны настрой.



■ Злева: Ала Супрун і Міраслава Ніканчук




■ Дзеткі з калектыву «Калебка» на дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова»



Дзеткі з Прадшколля № 1 у Гайнаўцы, якія належаць да «Калебкі», вучацца беларускай літаратурнай мове і рыхтуюцца выступаць таксама на мясцовых гаворках. Апрача знаёмства з традыцыямі, вучацца таксама сучаснай беларускай культуры. Рэгулярна прымаюць удзел у дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова». Сёлета на раённым этапе конкурсу ў Гайнаўцы Анастасія Франкоўская і Якуб Бірылка занялі першыя месцы, Юлія Раманюк — другое, а Патрык Зубрыцкі — трэцяе. Падчас цэнтральных спаборніцтваў у Бельску-Падляшскім дзеткі з Прадшколля № 1 таксама выступілі паспяхова.

— У канцы сакавіка нашы дзеткі дабіліся вялікага поспеху падчас Конкурсу тэатральных калектываў у Беластоку, арганізаванага Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Выступілі мы на беларускай мове з музычным спектаклем на аснове народнай казкі «Рэпка». Усе нашы дзеткі запрэзентаваліся займальна, моцна зацікавілі публіку і атрымалі гарачыя апладысменты. Умеласці нашых дашкольнікаў, багатае сцэнічнае афармленне і цікавы выступ з пастаноўкай «Рэпка» вельмі высока ацаніла журы конкурсу і калектыў «Калебка» атрымаў Гран-пры конкурсу. Мы рады таксама поспехам нашых дашкольнікаў у дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова». Выступаючы на сцэне дзеткі вучацца адвагі і разгортваюць у сабе мастацкія здольнасці і ўмеласці, — паінфармавалі настаўніцы Міраслава Ніканчук, Ала Супрун, Вольга Вілюк і Эва Шыманская.

Вольга Вілюк адказная ў прадшколлі перш за ўсё за вучобу беларускім народным танцам. Дырэктар прадшколля Іаанна Рушук удакладніла, што спадарыня Вольга моцна ангажуецца, дапамагаючы настаўніцам падрыхтаваць дашкольнікаў з «Калебкі» да выступаў з пастаноўкамі, песнямі і багатымі абрадамі.

У пачатку сакавіка гэтага года апекуны калектыву «Калебка» наладзілі ў сваім садку абрад «Масленіцы» і заадно падвялі вынікі другога выпуску кулінарнага конкурсу «Традыцыйная запусная страва».

— Падчас «Масленіцы» адбылася прэзентацыя запусных страў, якіх калісьці варылі ў масленічны тыдзень. У конкурсе прынялі ўдзел 35 сямействаў, якія падрыхтавалі ажно 45 страў, характэрных для нашага рэгіёна. Пераможцамі сталі сямействы Харытанюкоў, Фірсаў і Карасёў, а ўсе астатнія атрымалі вылучэнні. Нашы дзеткі паказалі гульні, прымеркаваныя да масленічнага запуснага тыдня і народныя танцы пад гукі акардэона. Перад дашкольнікамі і бацькамі народныя беларускія танцы запрэзэнтаваў танцавальны калектыў Гайнаўскага белліцэя, якім таксама апякуецца Вольга Вілюк. У канцы спаткання адбылося супольнае спажыванне падрыхтаваных на конкурс страў, якія былі не толькі смачныя, але і прыгожыя, — расказалі настаўніцы-апякункі калектыву «Калебка».

— Нашы дзеткі раней спатыкаліся ў Гайнаўскім белмузеі з журналісткай і пісьменніцай Мірай Лукшай. Даведаліся тады як узнікае верш і чаму адны вершыкі сумныя, а іншыя вясёлыя. Запрэзэнтавалі таксама для пісьменніцы кароткую мастацкую частку. У час апошніх Мастацкіх сустрэч школьнікаў у Гайнаўскім белмузеі наша малодшая група «Калебкі» выступіла з прадстаўленнем пра восень, паказваючы, што гаспадыні рабілі ў мінулым з фруктаў і агароднін. Старэйшая група нашых дашкольнікаў паказала абрад «Вячоркі», спявалі, дэкламавалі вершыкі, прымаўкі і танцавалі. У прадстаўленні «Вячоркі» выкарысталі мы рэквізіты, якія прывезлі з вёсак. З гэтым абрадам мы выступілі таксама ў Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных у час мерапрыемства «Беларускі абрад на сцэне», — паінфармавалі настаўніцы.

— Апрача вучобы з дзеткамі беларускай мове і культуры ў нас ёсць заняткі падчас падрыхтовак да выступаў калектыву «Калебка». На такіх занятках вучым, між іншым, дэкламаваць вершыкі і спяваць беларускія песні. Так прыдумваем заняткі, каб зацікавіць дзетак нашай прапановай, — сказала Міраслава Ніканчук.

Фота з архіва Прадшколля № 1

**Згадвалася ў гэтым месцы пра двухпавярховы чыгуначны вакзал у Цюрыху. Дарэчы, шмат што ў Швейцарыі схавана пад зямлёю. Калі глянуць на шчыльна забудаваныя вуліцы швейцарскіх гарадоў, не кінецца ў вочы, што некаторыя будынкі перабудаваныя, а пад імі знаходзяцца шматэтажныя аўтамабільныя стаянкі. Дарэчы, і аўтамабілі шмат сваіх паездак па альпійскай краіне праводзяць на аўтабанах у тунэлях. Для прыкладу, амаль пятая частка аўтабана з Цюрыха ў Люцэрн праходзіць пад тунэлямі.**


Возера Чатырох Кантонаў

# У Альпах

Люцэрн гэта адметны горад. У 1857 годзе Леў Талстой пісаў: „Учора вечарам я прыехаў у Люцэрн і затрымаўся ў найлепшай мясцовай гасцініцы, Швейцэргофе. (...) Калі я ўвайшоў наверх у свой пакой і адчыніў акно на возера, краса гэтай вады, гэтых гор і гэтага неба ў першае імгненне літаральна асляпіла і скаланула мяне. Я адчуў унутраны неспакой і патрэбу як-небудзь выказаць лішак нечага раптам перапоўнішага маю душу. Мне захацелася ў гэты момант каго-небудзь абняць, абняць моцна, заказытаць, ушчыпнуць яго, увогуле зрабіць з ім і з сабою нешта незвычайнае. (...) Блакітнае, як гаручая сера возера, з кропкамі лодак і іх знікаючымі слядамі, нерухома, гладка, быццам выпукла рассцілалася перад вокнамі між разнароднымі зялёнымі берагамі, уцякала наперад, праціскаючыся паміж двума аграмаднымі выемкамі і, цямнеючы, упіралася і нікла ў нагрувашчаных на сябе далінах, горках, хмарках і льдзінах. (...) Ні на возеры, ні на горах, ні на небе ніводнай суцэльнай лініі, ніводнага суцэльнага колеру, ніводнай суцэльнай хвіліны, усюды рух, несіметрычнасць, капрызнасць, бясконцая сумесь і разнароднасць ценяў і ліній, і ва ўсім спакой, мяккасць, адзінства і неабходнасць прыгожага".

Возера, якое так захапіла слаўнага пісьменніка, называецца Возерам Чатырох Кантонаў; у Люцэрне ўліваецца ў яго рака Рэйс. Вось над гэтым вусцем і распалажана гасцініца Швейцэргоф. Спыняліся ў ёй розныя знакамітасці, не толькі Леў Талстой, але і нямецкі кампазітар Рыхард Вагнер, дацкі пісьменнік Ханс Крысціян Андэрсен, брытанскі палітык Уінстан Чэрчыль і пануючая брытанская каралева Лізавета ІІ, амерыканскі пісьменнік Марк Твен, швейцарскі военачальнік Анры Гізан. Варта прысвяціць слоў пару апошняму.

Генерал Гізан, які быў галоўнакамандуючым узброенымі сіламі Швейцарыі ў гады Другой сусветнай вайны, выпрацаваў стратэгію абароны краіны, якая вядомая пад назвай „Рэдут". Заключалася яна ў свядомасці, што швейцарская армія значна ўступае па сіле войскам магчымых агрэсараў. Таму была прынята канцэпцыя абароны не на граніцах, але ў глыбіні краіны, у горных масівах Альпаў. У 1940 годзе германскае камандаванне апрацавала план ваеннага ўварвання ў Швейцарыю пад крыптанімам „Таненбаўм". Супраць Швейцарыі было згрупавана 16 нямецкіх дывізій, кожная з якіх мела ў тры разы больш узбраення чым уся швейцарская армія. Генерал Гізан прадбачваў аддачу без бою галоўных гаспадарчых цэнтраў краіны, затое абарону і ўзрыў горных тунэляў, якія спалучалі Германію з саюзнай ёй Італіяй. Гэта прадвяшчала большыя турботы агрэсарам чым мірнае супрацоўніцтва з альпійскай краінай; напрыклад, яны захоўвалі магчымасць канвертавання сваёй валюты ў Швейцарыі — у іншых краінах такой магчымасці не было. Былі заключаны швейцарска-нямецкія пагадненні, дзе швейцарцы пайшлі на некаторыя ўступкі, што дазволіла ім пазбегнуць фармальнай вайны. Праўда, нямецкія самалёты прабавалі час ад часу ўварвацца на швейцарскае неба, але атрымлівалі суровы адпор; у час вайны швейцарскія лётчыкі і зенітчыкі збілі больш за дзесяць гітлераўскіх машын...



Скульптура „Канаючы леў"


Сярэднявечныя дамы ў Люцэрне

Адной з галоўных славутасцей Люцэрна з'яўляецца скульптура „Канаючы леў". Гэта помнік у гонар швейцарскіх гвардзейцаў, якія загінулі ахоўваючы французскага караля Людвіка XVI у час рэвалюцыі канца XVIII стагоддзя. Калі парыжскі тлум 10 жніўня 1792 года акружыў каралеўскі палац Туільры, манарх загадаў сваім ахоўнікам здацца. Тлум накінуўся на гвардзейцаў, забраў ім ружжо, забіў іх на месцы каля шасці сотак, а чарговыя дзясяткі трапілі пазней пад гільяціну. Некаторыя ўцалелі; адным з іх быў гвардзейскі афіцэр Карл Пфюфер, які ў той час быў у водпуску. Пасля ён хадайнічаў за мемарыяльнае ўвекавечанне сваіх таварышаў. Швейцарскія скульптары не былі ў змозе выпрацаваць адпаведнай канцэпцыі мемарыяла. Тады Пфюфер звярнуўся да славутага дацкага скульптара Берталя Торвальдсена. Мастака зацікавіла прапанова і ён паддаў думку, каб быў гэта не мёртвы леў, як хацеў гэтага задумнік, але леў канаючы. Канцэпцыя была адобрана, а яе здзяйсненнем заняўся швейцарскі скульптар Лукас Ахорн. У 1821 годзе, у 29-ю гадавіну трагічных падзей, мемарыял быў урачыста адкрыты...

Марк Твен так апісаў мемарыял: „Леў ляжыць на зрэзе невысокай стромай скалы, бо ён высечаны ў горнай пародзе. Ягоная фігура агромная і перапоўненая велічнасцю. Галаву ён скланіў набок, зламанае кап'ё тырчыць з пляча, лапа ляжыць на ліліях Францыі, абараняючы іх. Вінаградныя лозы звісаюць са скалы, вецер гуляе ў іх лістоўі, недзе зверху б'е крыніца і празрыстыя кроплі сцякаюць у вадаём пад скалою, а ў нерухомай гладзі вадаёма, як у люстры, гайдаецца сярод гарлачыкаў адбітак льва. Навокал зялёныя дрэвы і трава. Гэта ўтульны, спакойны лясны вугалок, адхілены ад шуму, спешкі і збянтэжанасці. І ўсё гэта так як быць павінна, бо ж ільвы на самой справе канаюць у падобных месцах, а не на гранітных п'едэсталах, узведзеных у гарадскіх парках за чыгуннымі кратамі шаблоннага ліцця. Люцэрнскі леў усюды ўражваў бы, але тут ён асабліва дарэчы".

Над барэльефам у скале высечаны лацінскі надпіс „HELVETIORUM FIDEI AC VIRTUTI" — „вернасці і адвазе швейцарцаў". Ніжэй — лацінская лічбы 760 і 350, якія паведамляюць пра лікі забітых і ўцалелых гвардзейцаў. Ніжэй знаходзяцца імёны дваццаці шасці афіцэраў, якія аддалі сваё жыццё, выконваючы свой абавязак і шаснаццаці тых, якія ўцалелі.

Да ўсяго гэтага варта дадаць, што скульптуры Берталя Торвальдсена маем і ў Варшаве, на Кракаўскім прадмесці; гэта помнікі Мікалаю Каперніку і Юзафу Панятоўскаму. Яшчэ адна цікавінка да люцэрнскага мемарыяла: калі Торвальдсен выканаў амаль усю работу, яму паведамілі, што плата за яго тварэнне будзе значна меншая ад дагаворнай. Мастак успеў яшчэ выявіць свае адносіны да несумленных чыноўнікаў: абрыс нішы, у якой ляжыць леў, яўна нагадвае контур свінні...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Аб чаромхаўскай культуры (8)



Арганізатарам народных фэстаў з'яўляліся Галоўнае праўленне БГКТ і Гмінны асяродак культуры. Такое мерапрыемства запаміталася мне са жніўня 1996 года. Тагачасным кіраўніком чаромхаўскага ГАК была Тамара Кердалевіч. У арганізацыі імпрэзы дапамагалі мясцовая бібліятэкарка Марыся Заборская, затым музычны інструктар Бася Кузуб. Стаяла цудоўнае летняе надвор'е. Ад поўдня пачалі збірацца на пляцоўцы побач дома культуры «Калеяж» удзельнікі фэсту — спярша дзеткі і моладзь, пасля дарослыя. Неўзабаве пляцоўка запоўнілася шматлюднай публікай. Шмат народу знаходзілася на тратуары за парканам. Імпрэза па абвестках мела пачынацца ў трынаццаць гадзін. На гадзіну раней заехаў аўтобус з гасцямі: Янам Сычэўскім і артыстамі. У гэтай кампаніі былі мне добра вядомыя сябры па пяру Міхась Хмялеўскі, Васіль Петручук і Янка Целушэцкі, якія прэзентавалі свае кніжкі. Калі я размаўляў з калегамі, падышоў да нас Лёнік Шымасюк з Чаромхі-Станцыі і, звярнуўшыся да мяне, сказаў: «Ведаеш, Валодзя, што ў мяне за пазухай, — і паказаў на кашулю. І не атрымаўшы адказу, прыбавіў: — Голуб. Як пачнецца фэст, дык выпушчу яго на волю ў знак міру і дружбы». Фэст пачаўся з паўгадзінным спазненнем. Электратоку не хапала ў падключаных на сцэне ўстаноўках. Але электрыкі хутка справіліся з заганай. Фэст адкрыў войт Міхал Врублеўскі, які прывітаў пасла Сейма Сяргея Плеву і Станіслава Малішэўскага, затым артыстаў і ўсіх апошніх. Старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі ў сваім выступе спаслаўся на нядаўні юбілей 40-годдзя БГКТ і расказаў аб дзейнасці Таварыства, а сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч пазнаёміла з праграмай канцэрта. Мастацкая частка доўжылася больш за дзве з паловай гадзіны. Калектывы змяняліся быццам у калейдаскопе: «Маланка» і «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага, гарадоцкія самадзейнікі, «Вульчанкі» з Вулькі-Тэрахоўскай, пявунні з Чаромхі-Вёскі, варшаўскія «Стаклосы». Важаком музычных напеваў была эстрадная група «АДА» з Беластока. Гледачам вельмі спадабалася мастацкая частка, бо пасля кожнага нумара не сціхалі воплескі. Асаблівай авацыяй публіка ўзнагародзіла саліста з Гарадка Юры Налівайку. На гэтым фэст не закончыўся. Артысты падаліся ў Кляшчэлі на запланаваны канцэрт. Пасля вярнуліся ў Чаромху і прадоўжылі народныя танцы пад гукі эстраднай групы. Чарамшане культурна і весела правялі вольны час на беларускім фэсце. Не меншай зацікаўленасцю чарамшан карысталіся дзіцячыя імпрэзы. Такое мерапрыемства Гмінны асяродак культуры арганізаваў 5 чэрвеня 1999 года з нагоды Дня дзіцяці. Дзіцячым выступам спадарожнічалі артысты беластоцкай «Шазды», якія гасцявалі па запрашэнні дырэктар Тамары Кердалевіч. Дзеткі выступалі ў рознага віду гульнях і забавах. Малявалі фарбамі твары і краіны свету, гулялі «з хустай», укладалі «сцежкі з кветак», затым «фрызуры». Смельчакі паспрабавалі цыркавых умеласцей у акрабатычных нумарах, а іншыя выступалі з мікрафонам перад публікай, чытаючы вершы ці співаючы песні. Для кожнай гульні было адведзена месца ў куточку. Найбольшую зацікаўленасць у гульнях праяўлялі дзяўчынкі. У шматлікай групе выступіла адно двух хлопцаў. Найбольшай зацікаўленасцю карысталася маляванне твару і ўкладанне прычоскі. А малечы мелі магчымасць ласавацца папкорнам, цукровай ватай і каляровымі шарыкамі, якія прадаваліся ў ларках на пляцоўцы пры агароджы. А на заканчэнне фэсту была арганізавана дыскатэка. У гэты дзень арганізатары дазволілі дзеткам пагуляць удоволь.

Уладзімір СІДАРУК

# Майскія лекавыя зёлкі

У маі палі і лугі ператварыліся ў стракатыя, каляровыя дываны. Усюды кветкі — і ў зялёнай яркай траве, і на кустах. Паветра насычана пахам зёлак. Цяпер добрая пара збіраць і сушыць лекавыя зёлкі. На іх можна зарабіць сякі-такі грош. Калі збіраць, дык трэба ведаць лекавыя расліны. Збіраем або кветкі, або лісце, або карэнне. Не вырываем усіх зёлак у адным і тым жа месцы. Частку іх пакідаем, каб раслі гадамі. Зёлкі збіраем у сухія дні ды калі ўжо абсохне раса. Неабходна ведаць і спосабы іх сушэння. Нельга іх сушыць на сонцы.

Зараз Вера Лукашук на пункце скупкі зёлак у Прэнтах і Валянціна Барташэвіч у Скупаве Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета купляюць перш за ўсё сушанае лісце адуванчыка і плацяць за яго 7 злотых за кілаграм, за цвет стакроткі — 40 злотых, за вельмі маладзенькую крапіву — 8 злотых, за зелле пахучай марэны — 25 злотых і карэнне адуванчыка — 15 злотых.

Калі збярэм шмат лекавых раслін, на нашым рынку будзе больш зёлкавых лякарстваў, касметыкі, смачных сіропаў ды розных прыпраў для страў. Дык збірайма зёлкі!

(яц)




# http://zbsunion.by

Студэнтам, як і ўсёй моладзі, уласцівы пратэстныя настрої. Праўда, да беларускай моладзі і беларускіх студэнтаў такое сцвярджэнне тычыцца найменшым чынам. Беларускія студэнты ў сваёй пераважнай большасці — гэта аморфная маса канфармістаў, якіх не надта хвалюе жыццё беларускай краіны, народа, якім не цікава палітыка і звязаныя з ёй праблемы мовы, гісторыі, культуры. Яны настолькі не самастойныя, што з лёгкасцю падпарадкоўваюцца кожнаму, нават бязглуздаму рашэнню рэктараў-прызначэнцаў, якіх не абірае акадэмічная супольнасць таго ці іншага вну. Такое становішча студэнцтва насамрэч з'яўляецца працягам становішча большасці беларускага грамадства, якое за ўяўную „чарку і шкварку" адмовілася ад мовы, уласных правоў і дэмакратыі.

Праўда, усё вышэйпададзенае нельга аднесці да ста адсоткаў беларускага студэнцтва. Бо ёсць і тыя хлопцы і дзяўчаты, якім баліць душа за мову, гісторыю і культуру свайго народа, якім неабыякавы іх уласныя правы і дэмакратычныя каштоўнасці. Гэтыя маладыя людзі ёсць як у маладзёвых арганізацыях апазіцыйных партый, так і ў грамадскіх аб'яднаннях, якія не належаць ніякім партыям. Да такіх можна аднесці Задзіночанне беларускіх студэнтаў (ЗБС), сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://zbsunion.by**.

Сайт выглядае неяк радасна, бо на яго галоўнай старонцы размешчаны фотаздымак з тварамі хлопцаў і дзяўчат, якія ўсміхаюцца. Невядома, аднак, ці гэтыя маладыя людзі маюць дачыненне да ЗБС. Судзячы па гісторыі аб'яднання, вялікіх падстаў для весялосці пакуль бракуе. Так, узнікшы напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, ЗБС было афіцыйна зарэгістравана на пачатку дэмакратычных 90-х гадоў. Але ўжо ў 2001 годзе яна фармальна знікае, бо яе пазбаўляюць рэгістрацыі. „Да 2001 года мы мелі паўнапраўную рэгістрацыю як грамадзянскае аб'яднанне „Задзіночанне беларускіх студэнтаў", але былі пазбаўлены яе пасля некаторых кампаній па ахове правоў студэнтаў", — так тлумачыцца тая сітуацыя на старонцы „Пра нас".

Толькі ў 2016 годзе ЗБС заявіла аб сваім адраджэнні, аб'ядноўшы сілы з актывістамі руху супраць платных перапраў залікаў і экзаменаў у Белдзяржуніверсітэце, якія праводзілі рэзанансны ў грамадстве марш студэнтаў у снежні 2015 года. „ЗБС было зарэгістравана ў 2016 годзе як асветніцкая ўстанова „Філаматы", — адзначаецца на сайце.

Пра сябе цяперашнія ЗБСаўцы паведамляюць, што яны маладзёвая грамадзянская каманда, якая бачыць сваімі задачамі павышэнне якасці адукацыі, абарону правоў і інтарэсаў студэнтаў і папулярызацыю беларускай мовы ў сферы адукацыі і навукі.

Калі ж паглядзець па тых навінах, якія месцяцца на сайце, то зараз дзейнасць арганізацыі не надта актыўная, хоць яе сябры выказваюцца па тых ці іншых актуальных праблемах. Праўда, далёка не заўсёды можна зразумець, да якой даты гэтыя паведамленні адносяцца, бо на сайце чамусьці лічаць непатрэбным ставіць год у даце.

Аб тым, хто кіруе арганізацыяй, якія ў яе структуры ў беларускіх рэгіёнах дзеяцца таксама немагчыма, бо ў віртуальным прадстаўніцтве ЗБС такой інфармацыі няма. А з кантактаў — толькі адрас электроннай пошты.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара



## 60 гадоў з дня нараджэння

# Віктара Дзесяціка

Беларускі грамадскі актывіст Віктар Дзесяцік нарадзіўся 7 траўня 1959 г. у Свіслачы. Вучыўся ў Свіслацкай школе, пазней працаваў у родным горадзе. Вядомы як шчыры, адданы беларускай справе патрыёт, лідар свіслацкай Грамады (БСДГ), сябра праваабарончага цэнтра „Вясна", адзін з арганізатараў традыцыйнага штогадовага фэсту Дзень памяці паўстанцаў 1863 года. Пяць гадоў таму свіслацкая грамадскасць зазнала вялізную страту. Віктар Дзесяцік рыхтаваў чарговы фэст, але не дажыў да яго. Цяжкі інсульт падпільнаваў яго ў 55 год, а ўсім здавалася, што гэты энергічны, няўрымслівы чалавек яшчэ шмат чаго паспее і зробіць для агульнай беларускай справы і для свайго горада. Але вышэйшыя сілы нібыта адмыслова падгадалі дзень адыходу гэтага чалавека ў лепшы свет якраз да чарговага Дня памяці Герояў.

Віктар Дзесяцік быў дбайным гаспадаром і адказным бацькам, сапраўдным сем'янінам і надзейным сябрам. Ніколі не шкадаваў свайго часу, сілаў і асабістых сродкаў на грамадскія справы, даводзіў іх да канца. Чалавек — аголены нерв, вельмі востра перажываў несправядлівасць, якой так шмат у сучаснай Беларусі. Напэўна і таму яго арганізм не вытрываў вялікай напругі. Не меў вышэйшай адукацыі, але меў вельмі дасціпны розум, цікавіўся тэхнічнымі навінкамі, цэлы час насіўся з нейкімі камп'ютарнымі праграмамі, прапаноўваў іх усталяваць іншым. У яго асабістым акаўнце на фейсбуку так і засталася застаўка „Свабоду палітвязням!".

Віктар Дзесяцік з сябрамі неаднаразова праводзіў не толькі памятныя, але і праваабарончыя акцыі салідарнасці ў сваім горадзе. Быў актыўным і ў палітычных кампаніях. Фактычна з нуля стварыў у Свіслацкім раёне дзейсную суполку партыі Грамада. У 2010 годзе сам балатаваўся ў дэпутаты Гродзенскага абласнога савета ад БСДГ, вёў актыўную кампанію сярод жыхароў. Тады ў яго падтрымку з Мінска ў Свіслач прыязджаў старшыня партыі, былы кіраўнік дзяржавы Станіслаў Шушкевіч.

Віктар Дзесяцік быў сапраўды чалавекам пагранічча, часта ездзіў на Беласточчыну, марыў пра хутчэйшыя ўводзіны малога памежнага руху і ўвогуле ліквідацыю штучнай мяжы паміж Беларуссю і Еўропай. Вазіў у сваю родную Свіслач газету „Ніва", распаўсюджваў тыднёвік сярод свіслацкіх жыхароў. Аднойчы на мытні ў яго забралі частку накладу „Нівы". Улады таксама штрафавалі, цкавалі яго за акцыі памяці, а ён заўсёды рэзка і катэгарычна, але справядліва, адказваў мясцовым чыноўнікам і бюракратам, суддзям, якія толькі хвалі вочы і маўчалі. Вельмі любіў сваю родную Свіслач, распрацоўваў краязнаўчыя маршруты, дзякуючы найперш яго высілкам у 2012 годзе быў выдадзены краязнаўчы даведнік аўтарства Мікалая Пакутніка „Імёны і гістарычныя помнікі Свіслацкай зямлі". Усюды, дзе мог, Дзесяцік папулярызаваў свіслацкія мясціны і выдатных землякоў.

Пахаваны Віктар Дзесяцік на старых свіслацкіх могілках паблізу праваслаўнай царквы, побач са сваім бацькам, на абодвух магілах помнікі з надпісамі пабеларуску. Зусім недалёка і магіла іншага Віктара — Каліноўскага, ідэолага вызвольнага руху, з якой у фэст звычайна пачынаецца ўшанаванне нашых патрыётаў дзевятнаццатага стагоддзя. Віктар Дзесяцік таксама выступаў за праўду і адраджэнне нацыянальнай годнасці. Відаць, гэта найвышэйшая місія чалавека на гэтым свеце — быць і змагацца за праўду. Віктар Дзесяцік за сваё нядоўгае жыццё такую місію паспеў рэалізаваць.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# XXXVIII Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej „Hajnówka 2019” w Białymstoku

Organizator: Fundacja „Muzyka Cerkiewna” w Hajnówce

Miejsce: Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2

## PROGRAM FESTIWALU

**INAUGURACJA FESTIWALU 15 MAJA 2019 r. godz. 19.00**

**OTWARCIE FESTIWALU**

**KONCERT INAUGURACYJNY**

w wykonaniu

**Państwowego Chóru Naddniestrzańskiego z Tyraspola (Mołdawia)**

**PRZESŁUCHANIA KONKURSOWE**

**16.05.2019 (czwartek) godz. 17.00**

1. **Dziecięcy Zespół „Mtatsmindelebi”** – Tbilisi **(Gruzja)**
2. **Chłopięca Kapela Chóralna „Orliata”** – Zielenograd **(Rosja)**
3. **Wzorcowy Chór „Raduga” Dziecięcej Szkoły Chóralnej** – Baranowicze **(Białoruś)**
4. **Chór „Łybid'” Dziecięcej Szkoły Muzycznej** – Kijów **(Ukraina)**
5. **Koncertowy Chór „Raduga”** – Moskwa **(Rosja)**
6. **Sofijski Chór Chłopięcy** – Sofia **(Bułgaria)**
7. **Młodzieżowy Chór „Adamant”** – Ryga **(Łotwa)**
8. **Chór „Warwica”** - Warwa **(Ukraina)**
9. **Chór Seminarium Duchownego** - Witebsk **(Białoruś)**

**17.05.2019 (piątek) godz. 17.00**

1. **Żeński Zespół Wokalny „Mironosice Subotica”**- Subotica **(Serbia)**
2. **Męski Chór Karelii** – Pietrozawodsk **(Rosja)**
3. **Chór „Gaudium” Uniwersytetu Wrocławskiego** – Wrocław **(Polska)**
4. **Vene Koorikapell - Rosyjska Kapela Chóralna** – Tallin **(Estonia)**
5. **Chór Archikatedry Warszawskiej** – Warszawa **(Polska)**
6. **Młodzieżowy Chór Państwowego Koledżu Muzycznego** – Brześć **(Białoruś)**
7. **Studencki Chór Uczelni Muzycznej** – Żytomierz **(Ukraina)**
8. **Mieszany Chór Uczelni Muzycznej** – Ryga **(Łotwa)**
9. **Chór Akademickiej Uczelni Muzycznej przy Państwowym Konserwatorium** – Moskwa **(Rosja)**

**18.05.2019 (sobota) godz. 15.00**

1. **Chór „Societas Cantica”** – Vranov nad Topľou **(Słowacja)**
2. **Żeński Chór „Akademia” Uniwersytetu Pedagogicznego** - Odessa **(Ukraina)**
3. **Chór „Medici Cantantes” Uniwersytetu Medycznego** – Wrocław **(Polska)**
4. **Kameralny Chór Państwowej Filharmonii** – Astrachań **(Rosja)**
5. **Chór „Cantores Minores Wratislavienses”** – Wrocław **(Polska)**
6. **Biskupi Chór Katedry Św. Ducha** – Mińsk **(Białoruś)**
7. **Kameralny Chór Filharmonii** – Czerniowce **(Ukraina)**
8. **Chór „Harmonious” Republiki Ghany** – Akra **(Ghana)**
9. **Kameralny Chór „Mlada”** – Perm **(Rosja)**

**ZAKOŃCZENIE FESTIWALU 19.05.2019 (niedziela)**

**godz. 14.00 WERDYKT JURY I WRĘCZENIE NAGRÓD godz. 16.00 - KONCERT GALOWY**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. выдатны лётчык, віртуоз паветранага бою = 5 _ 13 _;
2. мужаў брат = 23 _ 24 _ 25 _ 31 _ 35 _ 26 _;
3. люты цар Іудзеі, віноўнік забівання немаўлят = 38 _ 39 _ 40 _ 41 _;
4. сталіца на Дняпры = 9 _ 10 _ 12 _ 8 _;
5. дошка на ножках для сядзення = 14 _ 17 _ 18 _ 27 _ 28 _;
6. нутраны тлушч = 6 _ 30 _ 21 _;
7. орган нюху = 11 _ 7 _ 36 _;
8. валаскі пад пер'ем птушак = 34 _ 15 _ 16 _;
9. дзесяць у квадраце = 4 _ 2 _ 3 _;
10. доўгае і шырокае адзенне старажытных грэкаў = 1 _ 22 _ 19 _ 20 _ 37 _;
11. гарбата = 29 _ 32 _ 33 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | 11 | 12 | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | | 19 | 20 | 21 | | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| | | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | | 39 | 40 | 41 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 15 нумара**

Азот, Ака, атава, герой, завал, пілот, Поці, руль.

Рашэнне: **Залатое правіла: у каго золата, той правіць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

**Старшыня**: Яўген Вапа.

**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.

**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.

**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*

**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*

***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***

**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.

**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.

**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.

**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.

**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.

**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**

„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.

Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.

Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.

Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl

Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok

38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

## 12.05 — 18.05

**(22.03. — 20.04.)** Жар у пачуццях. Партнёрскія і сяброўскія адносіны будуць паспяховымі. З 15.05. не ангажуйся ў дзеянні, якія апрача сумніўнага задавальнення не прынясуць ніякага прыбытку. Шыкуецца палымяны раман. Да 14.05. схадзі да касметолага. З 16 (да 20.05.) варта праглянуць хатнія куточкі — там чакае нейкая старая мэбля ці рэч, якую варта аднавіць і нават на ёй зарабіць.

**(21.04. — 21.05.)** Пару кампанейскіх сустрэч. На шмат спраў будзеш глядзець праз прызму былых параз. Не дай сябе загнаць у казіны рог! Не зыходзь з абранага курсу! 17-19.05. зробіш сваё і знойдзеш выхад з кожнай сітуацыі. Любоў прыйдзе пасля 15.05. 12-15.05. можаш заблытацца ў нявыгадныя адносіны. З 16.05. (да 20.05.) павышэнне або лепшая пасада чакаюць цябе ў канкурэнцыі. Пільнуй свайго жоўцевага пузыра!

**(22.05. — 22.06.)** 15-17.05. падпісвай важныя дамовы. Калі ў пачуццях захаваеш памяркоўнасць, пазбегнеш расчаравання. Могуць нахлынуць на цябе сумныя думы, пачуццё недахопу перспектыў, злосць і празмернае крытыканства. Ды настрой будзе папраўляцца! Новыя шанцы ў хатніх справах.

**(23.06. — 23.07.)** Ад 16.05. прыліў энергіі. Не рызыкуй у дзеяннях. Пасля 16.05. адчуеш, што схацець гэта змагчы. Можаш скочыць на новую пасаду, заснаваць сваю фірму. Але ідзі ўперад малымі крокамі. 17-19.05. пазмагайся за свае правы. 15-17.05. дамаўляйся ў доктара. Дасі панесціся жарсцям і не будзеш звяртаць увагу на тое, што аб табе гавораць іншыя! Ракі народжаныя пасля 17.07. змогуць пераносіць горы! 12-16.07. прадбачваюцца добрыя выпадкі. Справішся з выпрабаваннем лёсу. 17-19.05. не будзеш разгружацца на іншых.

**(24.07. — 23.08.)** 12-16.05. — будзеш мець больш веры ў сябе, будзеш адкрыта глядзець людзям у вочы. 12-15.05. не злоўжывай сваёй пазіцыяй і ўладай. 17-19.05. у пары не кранай цяжкіх тэм. Хочаш пахудзець — зменш порцыі. 12-16.06. зважай на людзей — хтосьці схоча выкарыстаць тваю дабрыню і наіўнасць.

**(24.08. — 23.09.)** Цяжкі час для рашэнняў. Зычлівасць, якую акажаш 15-17.05. вернецца табе памножаным дабром. У пачуццях будзь больш непасрэдным, не хавай сваіх мараў і патрэб. Усё зменіцца на лепшае. 17-19.05. горача ў пачуццях; кідком на мэту завершыш важны праект; заплануй на гэтыя дні высылку важных лістоў, экзамены, размовы аб працы, негацыяцыі — моцныя аргументы і ўмеласць пераконвання гарантуюць табе перамогу.

**(24.09. — 23.10.)** 12-16.05. мілая размова з кімсьці блізкім папрвіць табе настрой. Пасля 15.05. больш часу прысвяці сваёй палавінцы; канкурэнцыя цікуе! З 16.05. адчуеш, што ты быццам у шапачцы народжаны! Больш часу аддай на хатнія парадкі. Шалям з І дэкады ўдасца аформіць важную справу, таксама з купляй ці пабудовай жытла. Пасля 15.05. удалыя капіталаўкладанні, іграй на біржы, у латарэю.

**(24.10. — 22.11.)** 12-16.05. будзеш мець вялікі апетыт у любові. Незалежна ад перашкод, давядзеш да канца найважнейшыя праекты. Да 13.05. можаш спраўна заснаваць свой бізнес. 16-20.05. акажаш на кімсьці маланкавае ўражанне. 17-19.05. можаш трапіць на цудоўную нагоду і здабыць штосьці экстра. Зможаш адцяцца ад старых праблем. 17-19.05. пакажаш дулю таму хто цябе параніў. Прыцягваць цябе будуць асобы ад цябе зусім адрозныя. Энергія і энтузіязм.

**(23.11. — 22.12.)** Справы, за якія возьмешся, закончацца ўдала. 12-16.05. чакае цябе незабыўнае рандэву. 12-15.05. удала пазмагаешся са сваім балаганам і заганамі, прымусіш сябе да сістэматычнасці і выйдзеш на простую. Адчуеш, што маеш рэальны ўплыў на істотныя справы. Пераможаш канкурэнцыю!

**(23.12. — 20.01.)** Лады зорак вынесуць цябе на самую вяршыню. Твае магчымасці пашырацца. Дамовішся з асобай мілай, прыгожай і нябеднай. Асоба, з якой пазнаёмішся 15-17.05. спачатку здасца табе мала сімпатычнай, але ў будучыні акажацца найлепшым сябрам ці сяброўкай. 16-20.05. маеш шанц здабыць добра платную работу. Асоба, з якой сапернічаеш, будзе мець кепскі час 12-16.05., пераможаш яе без праблем, але іграй сумленна.

**(21.01. — 19.02.)** Да 14.05. будуць выклёўвацца ў тваёй галаве толькі геніяльныя ідэі! З 16.05. — свабода выказвання пачуццяў, лёгкасць наладжвання кантактаў. Будзеш вельмі папулярным у кампаніі. Але 17-19.05 атачэнне можа табе папсаваць нервы. Прысвяціш час на творчыя пасіі, 16-20.05. пераканаешся, што з гэтага можна добра жыць! Але не хваліся дабром.

**(20.02. — 21.03.)** 11-15.05. не пачынай нічога новага, задбай аб свой адпачынак. Паразуменне са сваёй палавінкай наладзіш 17-19.05. Не слухай парад асоб, якія хочуць цябе знеахвоціць (іх клопат папахвае зайздрасцю). На тваёй дарозе могуць паявіцца рыфы, ды абмінеш іх шчасліва, асабліва калі трапна разгледзіш сітуацыю. Кіруйся інстынктам, ды не забывайся на здаровы розум!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



# Сіцылія – краіна кактусаў і здагадак (ч.4)

Сучасная Сіракуза прывітала нас дзівосным касцёлам, які напамінаў згорнуты мегапарасон з бетону. Мадэрнасць, насупраць спадзяванням, залазіла ў кожную шчыліну. Непадалёк вакзала, на скрыжаванні з кругавым рухам «пасвіўся» жалезны конь, быццам жыўцом дабыты з карціны Пікасо.

— Ну, так! Усё плыве, нішто не астаецца такім самым, — сказаў грэчаскі філосаф Геракліт, які бываў у старажытным полісе Сіракузы.

Усе ўказальнікі кіравалі ў гістарычны квартал Артыгія. Сіракузы заснавалі грэкі з Карынфа ў 733 годзе да н.э. на аднайменным астраўку з бухтай, што амаль прытыкаў да вялікай выспы. Лакалізацыя спрыяла абароне з мора і адкрывала дарогу ў глыб Сіцыліі. Два стагоддзі пазней, калі горад пачаў расці і квітнець, Артыгію спалучылі з сушшу каменнай дамбай. Слаўная кладка служыць па сённяшні дзень. І зараз, мы дабіраліся туды з душой у пятках. У паветры пахла дажджом, але мы ведалі яму цану. Змокнуць у Сіракузах — рамантыка чыстай вады. Тут, калі верыць легендам, без вады не разабрацца.

* * *

Уваход у старажытны квартал сцярог бронзавы помнік Архімеда. Геніяльны матэматык у скупым хітоне больш чым самога сябе напамінаў атлета, які толькі што выйшаў з трэніровачнай залы. Яго напружаныя мышцы зіхацелі сілай і зухаватай упэўненасцю. Гэты імідж ніяк не падыходзіў да ранейшых уяўленняў, якія застаўлялі думаць пра заморанага інтэлектуала-старэчу з неспакойным позіркам. Як кажа легенда, права гідрастатыкі Архімед прыдумаў прымаючы ванну. Ён прыкмеціў што нейкая сіла выштурхвае ваду на паверхню і разам яго цела губляе цяжкасць. Гэта дазволіла сфармуляваць закон, які ведае кожны вучань: *На цела, пагружанае ў вадкасць (або ў газ), дзейнічае сіла, якая выштурхвае яго, роўная вазе выцесненай гэтым целам вадкасці (або газу).* Пад уплывам адкрыцця, ён выбег на вуліцу без адзежы і трыумфальна загудзеў: *Эўрыка! ЗНАЙШОЎ!*

Адкрыццё папярэдзілі пошукі, стрэс, бяссонніца. Тыран Сіракуз, Гіерон II, які ў прыватнасці прыходзіўся сваяком Архімеду, папрасіў, каб той дапамог высветліць клапатлівую загадку. Ён падазраваў у махлярстве злотніка, якому раней даручыў выканаць карону. Задачай Архімеда было праверыць ці вянец зроблены з чыстага золата, ці можа з серабра ў пазалоце. Прытым тыран зрабіў заўвагу, каб не пашкодзіць вянца.

Дзеля гэтага матэматык прыдбаў дзве грудкі, вагой роўнай кароне — адну з золата, другую з серабра. Далей напоўніў вадой пасудзіну і кінуў усярэдзіну серабро, а пасля золата. За кожным разам ён мераў колькасць вылітай вады. Аказалася, што там, дзе золата, вылівалася менш. Гэта паказвала, што цяжар уласны золата і яго згустак большыя, чым у серабра. Затым паклаў у пасудзіну карону. З яе вылілася больш вады, чым ад залатой грудкі. У такі спосаб Архімед даказаў ашуканства злотніка, які развёў золата серабром і для непазнакі прыгожа пазалаціў паверхню вянца.

На дамбе мы паспелі толькі сфатаграфавацца са славутым ураджэнцам горада. З месца прагнаў нас дождж, што як з вядра шугануў на нашы прыгожыя галоўкі.

* * *

У Сіракузу мы выправіліся ў нядзельку раніцай. У дзесяць гадзін горад яшчэ пазяхаў і прачынаўся. Па вузкіх вулачках гістарычнага квартала дзе-нідзе ўжо кружылі групы турыстаў. Услед ім ляцелі індусы і з рукі прапанавалі купіць парасон або цыратовы плашчык. Уражвала іх звышмабільнасць. За сіцылійскім дажджом цяжка паспець — ён абрываецца раптам і раптам спыняецца. Нас аблілі мо разоў чатыры, ажно прывыклі. Разам з дажджом «атакавалі» прадаўцы парасонаў, якія як з-пад зямлі з'яўляліся за спінай і совалі ў рукі свой тавар. Калі дождж спыняўся, яны знікалі.





Артыгію можна абысці за гадзіну і ў гэтым прысмак чыстай магіі і ўсяго падобнага. Нам прыйшлося кружыць вакол старога акропаля, то-бок Саборнай плошчы. У V стагоддзі да н.э. стаяў тут храм Афіны і палац тырана. Сёння тут Кафедральны сабор і сядзіба епіскапа. Манументальны сабор — жывы працяг стагоддзяў. Яго дах і сцены падпіраюць антычныя калоны старога храма Афіны.

Першапачаткова мы планавалі пайсці на багаслужбу, аднак раннюю імшу ўжо адслужылі, чарговую збіраліся правіць вечарам. Па саборы шпацыравалі турысты, загледжаныя ў столь. Увагу прыцягвалі фрэскі на біблейскія тэмы ў стылі італьянскага рэнесансу.

Мы спыніліся ў прыдзеле святой мучаніцы дзевы Лукіі, духовай патронкі Сіракуз. Да яе маліўся сам Дантэ, калі губляў зрок. Загінула яна 13 снежня 304 года ў час крывавага ганення хрысціян. Перад смерцю ёй выкалалі вочы. Раз у год вуліцамі Сіракузы ідзе ўрачысты паход-працэсія з падносам, на якім нясуць цудоўныя мошчы — вочы святой. Як верыць у народзе, святая Лукія дапамагае ў хваробах вачэй, лечыць слепату.

Па старых кварталах Сіракузы, асабліва ў дождж, можна хадзіць з закрытымі вачыма. У час прагулак прыморскімі тратуарамі мы нечакана трапілі ў румынскую праваслаўную царкву. Усярэдзіне пры доўгім стале, застаўленым раскошнай ядой, правілі паніхіду. Маладзенькі святар усё збіваўся, чытаючы з даўжэзнага лістка паперы дзівосныя імёны. Хвілін дзесяць раней мы наведалі славутую крыніцу німфы Арэтузы. Пабыўка ля міфічнага вадаёма, як кажа чарговая легенда, абяцала нечаканую сустрэчу. У румынскай царкве сэрца сагрэлі чырванашчокія цёткі ў квяцістых хустках. Яны напаміналі жывую карцінку ад роднага Падляшша.

* * *

У горадзе Архімеда мы забыліся пра мафію, хаця ўвесь час дарогу пераступалі індусы з парасонамі. Сіметрычнасць шчыльнай каменнай забудовы пакідала пачуццё ўтульнасці. Сіракузцаў, як нашчадкаў старажытных грэкаў, цэняць за памяркоўнасць і добры смак.

Старажытнагрэчаскі поліс Сіракузы пачаў развівацца паміж V і III ст. да н.э. Дзякуючы гандлёвым сувязям ён вырас у найбуйнейшы горад-дзяржаву Вялікай Грэцыі, як называўся комплекс грэчаскіх калоній на тэрыторыі сённяшняй Паўднёвай Італіі і Сіцыліі. Магутны флот дазваляў ім кантраляваці гандаль на Міжземным моры. Сіракузы паспяхова ваявалі з Афінамі (415-413 гг. да н.э.) і Карфагенам (409 гг. да н.э.). Узбярэжжа старога квартала баранілі крэпасці, збудаваныя на зломе V-IV ст. да н.э. тыранам Дыянізам. Фартыфікацыі займалі 22 кіламетры, іх лічылі найбольшым дасягненнем тагачаснай ваеннай архітэктуры. Уваход у горад засцерагаў шасцібрамны комплекс праходаў. Заваёвы і багацце спрыялі развіццю культуры. У Сіракузах бывалі Платон, Еўрыпід, Сафокл, Піндар, Геракліт... З антычных часоў захаваўся тэатр на 15 тысяч гледачоў, які далей выконвае сваю задачу — у сезоне ставяць тут п'есы антычных аўтараў.

Як немагчыма за дзень абысці ўсе атракцыёны Сіракуз, так немагчыма мінуць славуты пляц Архімеда. Плошчу ўпрыгожвае фантан Артэміды. Стоячы ля фантана, мне прыгадаліся палымяныя спрэчкі вакол гэтага закутка зямлі ў гады маёй універсітэцкай вучобы. Сябры пры любой нагодзе і бяседзе краналі тэму Пунічных войнаў. Іх захапленне перадавалася ўсім. Хоць усё гэта адбывалася напрыканцы 80-х гадоў XX ст., той узровень спрэчак і абстрактнасці думак сёння здаваўся недасяжным. Вось трэба было прыехаць, змокнуць і панаракаць...

Залаты век Сіракуз абарвецца ў гады Другой Пунічнай вайны (212 г. да н.э.). Архімед, які пакладзе ў гэтай вайне галаву, ідзе змагацца. Легенды апавядаюць, як з дапамогай сістэмы блокаў ён адным рухам спусціў на ваду велізарны карабель і як з дапамогай люстэркаў падпаліў рымскі флот. У знак прызнання военачальнік Марцэль загадаў захаваць жыццё вучонага. Яму аднак быў наканаваны іншы лёс. Згінуў з рукі рымскага салдата, калі на пяску чарціў фігуры. Перад тым як прыняў смерць, ён правучыў свайго забойцу словамі:

— Не тапчы мае колы!

З вандроўкі запамятаўся мне яшчэ вобраз старой жанчыны, якая з высі балкона назірала за патокам турыстаў, што забягалі ў яе вузенькую вулачку, каб сфоціць сабе сэльфі. Здавалася, вось-вось возьме вядро і палие ўсіх вадой...

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 19